PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 51 (2066) ГОД XL БЕЛАСТОК 17 СНЕЖНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Найбольш натуральна свой фальклор прадстаўлялі дзеці сувальскіх ромаў.*

## Пра сустрэчу ў Пуньску

Другія сустрэчы нацыянальных меншасцяў Сувальскага і Беластоцкага ваяводстваў, якія 25 і 26 лістапада г.г. праходзілі ў Пуньску, былі добрай нагодай і ў сэнсе фальклярыстычнай канфрантацыі, і нацыянальнай падтрымкі. Літоўцы, украінцы, ромы (цыганы), немцы, расейцы-стараверы як і беларусы Беласточчыны, каб адзначыць сваю прысутнасць на шырэйшым форуме, спяваюць, іграюць і танцуюць у народных калектывах. Ацэньваць паводле такіх паказчыкаў становішча меншасці аднак небяспечна. Часта ў пары з высокім узроўнем прэзентаванага фальклору ідзе іншая, супярэчная з'ява. Многія дзеці (датычыць гэта перш за ўсё беларусаў і ўкраінцаў) ужо польскамоўныя і не адчуваюць асаблівай сувязі са сваім рэпертуарам. Сумныя ўражанні выклікалі выступленні ўкраінскай моладзі з Венгажэва. Маладыя спевакі, хаця старанна і прыгожа выконвалі свае песні, не праяўлялі галоўнага — энергіі. Пра беларускія дзеткі можна было б сказаць іншае. Усе яны дэкларавалі б вам, што вельмі любяць беларускую мову, але гаварыць на ёй ніхто ўжо не ўмее.

— Не гаварыце па-польску, бо літоўцы гэтага не любяць, — павучала сваю моладзь украінская спявачка з Венгажэва.

Беларускія апекуны такіх сумненняў не мелі.

Калі я папыталася ў ромаў пра мову дзяцей, мае субяседнікі здзівіліся.

— А на якой мелі б гаварыць?

Літоўскія дзеткі ў дашкольным узросце ўвогуле не разумелі польскай мовы.

— Але гэта толькі ў Пуньскай акрузе, — тлумачылі вядомыя мне яшчэ са студэнцкіх часоў сябры літоўцы.

— У Сэйнах ці Сувалках многія літоўцы таксама мае комплексы з-за сваёй нацыянальнасці. Толькі нацыянальная школа і сям'я змогуць супрацьставіцца пагрозе асіміляцыі. Дарэчы, Сустрэчы меншасцяў мелі добрую, напаўсямейную атмасферу. Усе ўдзельнікі атрымалі ад арганізатараў сімвалічныя лампадкі. Гэта такая традыцыя, звязаная са святам памерлых, (якое напамінае беларусам Дзяды). Лампадка — сімвал сямейнага вогнішча, жыцця. Якраз у сям'і трэба пазнаваць і падтрымоўваць памяць пра сваіх продкаў. Школа толькі ўзмацняе гэтую памяць у шырэйшым сэнсе. Не дзіва, што пасля сімвалічных і эстрадных матываў, меншасці адчувалі сябе быццам у адной, дружнай, вялікай сям'і.

— Калі ў нас народзіцца дзіця, то запросім вас на хрэсьбіны, — прапанавалі бельскай „Маланцы" сувальскія ромы, якіх захапілі спевы нашых артыстаў.

* * *

Пуньск розніцца ад беластоцкіх мясцін, такіх як Орля ці Гарадок, перш за ўсё архітэктурай. Пераважаюць тут мураваныя катэджы з прыгожымі, задбанымі агародчыкамі. Мясціна славіцца ліцэем — кузняй літоўскай інтэлігенцыі. У ліцэі арганізуецца не толькі навука, але і культурныя мерапрыемствы. Якраз нацыянальныя сустрэчы праходзілі ў спартыўнай зале ліцэя, гасцей кармілі ў школьнай сталовай, а кватаравалі ў інтэрнаце. Цікава было таксама пабадзіцца па знаёмых вуліцах Пуньска. Разам з сябрамі рашыла я наведаць славуты рэстаран „Рута", у якім, паводле навакольных легенд, не абслугоўваюць палякаў. На жаль, з лета ён закрыты.

— Рабілі там надта ж „моцныя" дыскатэкі, — паясняе нам дзяўчына з утульнай, бязлюднай піўнушкі ў цэнтры гарадка.

Нашую ўвагу звярталі паўсюдныя надпісы і аб'явы на літоўскай мове. Прачытаць іх мы здолелі, карыстаючыся дапамогай прахожых. Аказваецца, што нават запрашэнні на забаву пішуць тут па-літоўску. Прачытаўшы такую афішу, мы даведаліся, што і тут паявіўся стыль disco polo. І сёння ў недалёкіх Шыплішках усе аматары „добрай музыкі і танца могуць правесці вечар". Уражвае таксама вуліца 1-га Мая, якая, як рэлікт, захавалася ў многіх мястэчках.

* * *

Арганізатары — літоўцы з Пуньска — прапанавалі сваім гасцям таксама абмен думкамі пра стан і сітуацыю, у якой апынуліся меншасці.

Сярод запрошаных гасцей былі сенатар Тадэуш Раманьчук і прадстаўнік Міністэрства культуры і мастацтва Анджэй Чайкоўскі. Беларускую меншасць прадстаўлялі Ян Сычэўскі і Валянціна Ласкевіч з БГКТ.

У сваім выступленні старшыня БГКТ Ян Сычэўскі гаварыў пра цяжкую сітуацыю ў беларускай асвеце, асіміляцыйную ролю Праваслаўнай царквы, а таксама неспрыяльную атмасферу, у якой жывуць беларусы. Паводле Я. Сычэўскага, бацькі-беларусы свядома паланізуюць сваіх дзетак, каб пазбягаць непрыемных гісторый.

— Надышла пара, каб урэшце напісаць сапраўдную гісторыю. Паводле сённяшніх распрацовак вынікае, што ўкраінцы ўвесь час займаліся толькі бандытызмам. Сярод палякаў і далей сустракаецца міф, што кожны ўкраінец — гэта бандыт, — заявіў настаўнік з Венгажэва.

— Мы і так маем найгорш, — скардзіліся ромы з Сувалак. Хто сёння прыме на працу цыгана? У грамадстве прыжыліся перакананні, што кожны цыган — гэта злодзей.

— Працу трэба пачаць ад сябе, — гаварыў прадстаўнік ромаў, ксёндз Раман Цяховіч з Элка. — Трэба найперш пераадолець уласны страх, працаваць над сабой. У канцы большасць прывыкне да нашай іншасці.

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**

## СТУДЭНТ ЖАБРАК, АЛЕ ПАН

### Інтэрнат

Як добра быць студэнтам, асабліва апошнім часам. Ну што ж — ты сапраўды свабодны чалавек! Свабодны — бо вольна бадзяешся з пакойчыка ў пакойчык тваіго інтэрната. Табе месца не знайшлося. Найбольш пашчаслівілася тым, хто мае багатых бацькоў і вырашыў павучыцца платна. Вось гэта навука! Паступаеш на вучэльню без уступных іспытаў, на заняткі ходзіш неабавязкова— і так здасі сесію, бо хто б меў адвагу выкінуць студэнта, які плаціць немалыя грошы інстытуту.

Хто аднак вырашыў паступаць, напісаў прынамсі на тройку прэзідэнцкі дыктант, а на дадатак валодае невялічкім бацькавым гаспадарствам, можа лічыць на тое, што маці паднясе камендантцы капу яек або добры кавалак вясковай саланіны і добрае месца ў інтэрнаце будзе мець гарантаванае.

А ты, на жаль, належыш да трэцяй катэгорыі самых вольных птушак у гэтым раю, якія не могуць пагадзіцца на залівае краіну ва ўсіх сферах хабарніцтва. Можаш толькі лічыць на тое, што замежнікі ўсё ж такі пакінуць свае інтэрнатныя седзішчы і выедуць пасля шасці-васьмі гадоў качавання (бо ж не вучобы) у адным з інтэрнатаў таго горада, той дзяржавы, якая больш шкадуе чужынцаў з далёкага Малі, чым сваіх бедных, босых і галодных прадстаўнікоў будучай інтэлігенцыі.

Так што, пакуль што, цешся з таго, што знайшлося хоць нейкае прытулішча, дзе можаш у меру спакойна прыхіліць да нібы-падушкі сваю запоўненую мноствам не-студэнцкіх праблем галоўку.

Выпіўшы шклянку абрыдлай грузінскай гарбаты, кладзешся як мага далей ад сценкі, баючыся, што найлепшыя сябры беларускага студэнта — прусакі, пачнуць начны шабаш на тваёй галаве. Уздрыгваешся, успомніўшы нядаўні выпадак, які здарыўся з такім як ты маладым інтэлігентам: начны прусак, несвядома свайго ўчынку, улез у вуха хлопца і так яны больш не разлучыліся.

Шчыльней закрываешся пледам, пазычаным ад добразычлівага суседа, і стараешся заснуць. Засынаеш, і сніцца табе, што сам прарэктар асабіста ўручае табе ключы ад чыстага, новага пакойчыка, у якім няма ні прусакоў, ні мышэй. Цэлае, чыстае вакно завешана прыгожымі беласнежнымі фіранкамі і заслонамі. Уключаеш святло — гарыць! Адкручваеш кран — ёсць і гарачая, і халодная вада! Ідзеш у прыбіральню — дзейнічае змывальнік! Нават суседзі за сценкай не паспелі яшчэ пачаць бяздумнай выпіўкі і не згвалтавалі маладзенькай жонкі іхняга сябра з групы.

Калі працягваеш прарэктару руку, каб падзякаваць за такі небывалы падарунак... прасынаешся.

Што там грыміць? — А, гэта суседзі зверху, прадпрымальныя арабы, чарговы раз прымаюць тавар — гару папяросных пудэлак. Нічога, вытрымаеш. Праз дзве-тры гадзіны, калі груз будзе вынесены на вакзал і паедзе ў Маскву, можна будзе крышку падрамаць.

*Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Па-першае, беларуская культура раптам усведаміла, што яна засталася па самоце: без дзяржавы, без прэстыжу, і амаль што без народу.*

*Наша Ніва, н-р 7—8*

Загаловак артыкула аўтарства Ігара Бабкова гучыць: „Культурная палітыка ў прэзыдэнцкай Беларусі”.

* * *

*Chociaż gminę Czyże od gminy Brańsk dzieli coś około 20 kilometrów, to pod względem politycznym różnią się one bardziej niż Ziemia Dobrzyńska, skąd pochodzi Wałęsa i gdzie Kwaśniewski otrzymał rekordowe poparcie, od Podhala, które prawie w całości stanęło za Wałęsą. Granica między Podlasiem katolickim a Podlasiem prawosławnym przebiega mniej więcej tak, jak szosa z Białegostoku do Lublina. W gminach prawosławnych wszyscy prawosławni głosowali na Kwaśniewskiego, na katolickim Podlasiu urzędujący prezydent wygrał z przewagą kto wie czy nie większą niż na Podhalu.*

*Kurier Poranny, nr 269*

* * *

*W byłym bloku radzieckim formacje komunistyczne są najsilniejsze. Nie dlatego, że im nie odebrano majątku. Ich siła to wiedza o polityce i wzajemna lojalność. Przywódcy SLD podobni są do biznesmenów, którzy potrafią inwestować długoterminowo. Politycy z obozu „Solidarności” to spekulanci. Jeśli inwestycja nie przynosi szybkiego zysku to uciekają do nowych firm. Aluzja ta dotyczy szczególnie Unii Wolności.*

*Gazeta Wyborcza, nr 272*

* * *

*Niech Pan Premier pouczy Ministra Dejmka, że film ma być dziełem kultury i sztuki, a nie zawartością nocnika. Panowie ministrowie, ogromna większość Sejmu, wasze żony i wasze dzieci, chcecie jeść zawartość nocnika, to wam nie zabraniamy ani nie przeszkadzamy,* — піша ксёндз Эдвард Цыгал з вернікамі парафіі Скжыпнэ прэм'ер-міністру Юзэфу Алексаму.

*Polityka, nr 47*

Нават нашыя беластоцкія камсамольцы не карыстаюцца такой рыторыкай як спадар „дабрадзей”.

* * *

*Kilkadziesiąt tysięcy podpisów zebrano w Białymstoku pod protestami przeciwko wyborowi Aleksandra Kwaśniewskiego na prezydenta RP. Przedstawiciele Gabinetu Ulgi w Cierpieniu rozdawali kartki z „Modlitwą o oddalenie złych mocy” w której pisano: „Niech go Bóg poskromić raczy, pokornie o to prosimy, a Ty Wodzu Niebieskich Zastępow, szatana i inne złe duchy, mocą Bożą strąć do piekła”. Protestuje cała Białostocczyzna. W korytarzu sztabu Lecha Wałęsy rozdawano ulotki: „Bitwa o Polskę ciągle trwa, weź też udział bezpardonny, Bóg nam zwycięstwo da”.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 272*

„Sądy sądami, ale sprawiedliwość musi być po naszej stronie”, — сказала старая Каргуліха.

* * *

*Pierwszą czynnością pokonanego w amerykańskich wyborach prezydenckich jest rozmowa telefoniczna ze zwycięzcą. Zwyciężony składa prezydentowi elektowi gratulacje, zapewnia o swojej lojalności i przeprasza za ataki, których dopuścił się w czasie kampanii. Zwycięzca natomiast w swym pierwszym wystąpieniu informuje o telefonie od pokonanego, podkreśla, że ceni gotowość rywala do współpracy, komplementuje go, a jeśli przegrany jest urzędującym prezydentem — dziękuje mu za godne i dobre sprawowanie urzędu.*

*Czy będzie nam kiedykolwiek dane być świadkami podobnego scenariusza?*

*Wprost, nr 48*

У будучыні ўсё можа здарыцца, але хто гэтага дачакаецца...

* * *

*Dla mnie pederasta to pederasta, zboczeniec to zboczeniec, a nie jakaś tam orientacja czy preferencja. Jak tak dalej pójdzie, to na złodzieja trzeba będzie mówić: nie kradnie, lecz robi zakupy inaczej,* — сказаў каўбой III РП Войцех Цэйроўскі.

*Gazeta—Magazyn, nr 47*

* * *

*Mińsk nie rzuca się w oczy, podobnie zresztą jak cała Białoruś. Jadąc z Polski do Rosji trudno nawet zorientować się, gdzie się ten kraj zaczyna, a gdzie kończy: granicy na Bugu strzegą Rosjanie, granicy pod Smoleńskiem od pewnego czasu nie strzeże nikt.*

*Rzeczpospolita, nr 268*

„Широка страна моя родная, много в ней лесов, полей и рек”, але дзе той свабодна дыхаючы чалавек?

* * *

*Украінскі студэнцкі саюз зьвярнуўся да прэзыдэнта Беларусі з просьбай, каб зьмяніў прозьвішча. Як піша газэта „Киевские ведомости” студэнты занепакоеныя тым, што ўкраінскае прозьвішча, якое мае прэзыдэнт Беларусі, кампраметуе Украіну і ўсіх украінцаў, якія так называюцца. Студэнцкі саюз лічыць, што Лукашэнка дае некаторым людзям падставу лічыць, нібыта ўкраінец пазбаўляе беларусаў свабоды слова, свабоды прафсаюзнай дзейнасьці і іншых правоў і свабодаў, заганяючы іх у маскоўскую няволю. Асабліва паспрыялі ўзьнікненьні такіх згадак, на думку ўкраінскіх студэнтаў, нечаканыя візыты беларускага прэзыдэнта ў Кіеве, дзе ніводзін сумленны чалавек не хоча яго бачыць. Таму, каб цень Лукашэнкі не падаў на іхнюю краіну, украінскія студэнты настойліва рэкамендуюць беларускаму прэзыдэнту зьмяніць прозьвішча на „Лукашэнковъ”.*

*Свабода, н-р 52*

Далучаемся да просьбы ўкраінскіх студэнтаў.

* * *

*Naród znowu się nie sprawdził. Kolejny raz. To już widać taka nasza cecha, że się nie sprawdzamy. Każą głosować na komunistę, nie głosujemy, apelują żeby nie wybierać postkomunisty — wybieramy, zawsze na odwrót. Naród jak mówią nie dorósł. Zawsze taki niewyrośnięty. Wcześniej za żadne skarby nie potrafił dorosnąć do komunizmu, co spędzało sen z powiek partyjnym przywódcom nie tylko naszym, ale i z „bratnich narodów”. Teraz nie może dojrzeć do kapitalizmu. Naród mamy więc taki jakiś niewyrośnięty, za to przywódcy narodu... O, ci wyrośli jak te dęby nad łanami chwastów. Wyrośli tak bardzo, że każdy nadaje się na prezydenta. A naród jest głupi. Jak mu proponują kilkunastu najlepszych na świecie prezydentów, to i tak źle wybiera.*

*Gazeta Współczesna, nr 228*

Цікавыя гэтыя паслявыбарчыя роздумы.

# З мінулага тыдня

**Тоеснасць, рознасць, талерантнасць і культура міру** — пад такім лозунгам праходзіла ў Любліне канферэнцыя ў сувязі з аб'яўленым у 1995 г. ЮНЕСКО Годам талерантнасці, прысвечаная абмеркаванню пытанняў узаемазалежнасці паміж тоеснасцю і талерантнасцю. На думку міністра замежных спраў **Уладыслава Барташэўскага**, Польшча ў нацыянальных пытаннях, беручы пад увагу фармальна-прававы бок справы, адпавядае стандартам, акрэсленым Еўрапейскім Саюзам. „У нас няма ні нацыянальных канфліктаў, ні нявырашаных спраў” — сказаў міністр падчас канферэнцыі.

**У Чорнай-Беластоцкай** адбыўся справаздачна-выбарчы сход **Саюза гмін „Прагрэс XXI”**. Старшынёю саюза паўторна быў выбраны бурмістр Чорнай-Беластоцкай **Пётр Лятала**. Сход прыняў пастанову, у якой патрабуецца павялічыць бюджэтную субсідыю для гмін у сувязі з пераходам школ у распараджэнне самаўрадаў. У сустрэчы ўдзельнічаў Генеральны консул РБ у Беластоку **Міхаіл Слямнёў**, паколькі ў праграме саюза важнае месца займаюць дзеянні на карысць наладжвання супрацоўніцтва з замежнымі партнёрамі.

**У Пуньску** прайшоў XIII з'езд Таварыства літоўцаў у Польшчы, на якім новым старшынёю таварыства быў выбраны 27-гадовы гісторык, выпускнік Віленскага універсітэта **Пэтрас Максімавічус**. Ад кандыдавання на гэтую пасаду адмовіўся ранейшы старшыня **Эўгеніюс Петрушкевічус**, які заявіў, што „пара ўступіць месца малодшым”. Адбыліся таксама персанальныя змены і на з'ездзе **Супольнасці літоўцаў у Польшчы**, якая аб'ядноўвае ўсе літоўскія арганізацыі. Падчас пасяджэнняў абодвух арганізацый абмяркоўваліся пытанні асветы ды выказвалася боязь у сувязі з пераходам школ у распараджэнне самаўрадаў, што можа ў выпадку нястачы сродкаў прывесці да ліквідацыі ў школах груп з літоўскай мовай навучання. Дзеячы патрабавалі таксама павелічыць кольскасць літоўскамоўных тэлеперадач і стварыць у Пуньску філіял музычнай школы.

**У Бельску-Падляшскім** радныя Гарадаскай рады вырашылі стварыць у горадзе Дом дапамогі для асоб з псіхічнымі захворваннямі. Грошы — 400 млн. ст. зл. — на неабходнае абсталяванне прызначыў ваявода, а горад уступіў будынак былога дзіцячага садка.

**У Белавежы** ў кінатэатры „Жубр” адбылася прэм'ера фільма **Яна і Бажэны Валенцікаў „Пульс першабытнай пушчы”**. Фільм ствараўся на працягу трох гадоў і каштаваў 8—10 млрд. ст. зл. Аўтары кінакарціны асаблівую ўвагу звярнулі на ўказанне прыгажосці Белавежскай пушчы. Фільм пра пушчу пачаў ужо выходзіць у тэлеэфір ў рамках „Адукацыйнага тэлебачання”. З нагоды прэм'еры ў Белавежскім асяродку культуры адкрылася выстава з 30 фатаграфічных работ Яна Валенціка. Экспазіцыю, якая прадстаўляе Белавежскую пушчу, можна наведваць да 20 снежня.

**У Кляшчэлях**, у сувязі з прывядзеннем у карыстанне аўтаматычнай тэлефоннай станцыі, ранейшыя нумары абанентаў змяніліся на пяцізначныя 18ххх. Колішні адназначны нумар х мяняецца на 1800х, двухзначны хх — на 180хх, а трохзначны ххх — на 18ххх.

На аўтазаправачнай станцыі **ў Гацьках** злачынцы напалі на працаўніка, пабілі яго і забралі 5 500 зл. Грабежнікі ўцяклі ў невядомым напрамку. Быў гэта другі на працягу двух апошніх гадоў у ваколіцах Бельска-Падляшскага выпадак грабяжу на АЗС.

# Праз тыдзень у „Ніве”

> Не пакідайце пустых кватэраў — рэпартаж Ганны Кандрацюк пра беластоцкіх зладзеяў.

> Як Кастусь Млынарскі чыгункай польска-беларускую мяжу перасякаў — рэпартаж пра кантрабандыстаў.

> Фелікс Дзяржынскі ў маладосці быў паэтам — піша Мікалай Панфілюк.

Словы глыбокага спачування
спадарству
**ВЕРЫ і ГЕОРГІЮ
ВАЛКАВЫЦКІМ**
з прычыны
напаткаўшага Іх гора —
**смерці МАЦІ і ЦЕШЧЫ**
выказвае
рэдакцыйны калектыў „Нівы”

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Вынікі першага тура

Паўторныя выбары ў Вярхоўны і мясцовыя саветы дэпутатаў прайшлі ў 141 акрузе на 2712 участках пры агульнай колькасці выбаршчкаў унесеных у спісы для галасавання 4 154 281 чалавек. У ходзе першага тура (29 лістапада) прагаласавалі 61,2% выбаршчыкаў, якія выбралі 20 дэпутатаў парламента рэспублікі. У 119 акругах выбары адбыліся, але ніхто з кандыдатаў не набраў больш за 50% галасоў і таму ў іх 10 снежня адбудзецца II тур галасавання. Да гэтай пары (разам з майскімі выбарамі) выбрана 139 дэпутатаў. Для таго, каб Вярхоўны Савет стаў правамоцным, у ім павінна быць не менш, чым 174 дэпутаты, таму неабходна выбраць яшчэ сама меней 35 дэпутатаў.

## Каго выбралі?

Сярод выбраных у I туры 20 дэпутатаў ёсць намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандр Дабравольскі, былы сакратар ЦК КПБ, прадстаўнік Партыі камуністаў Аляксей Камай. Сярод іншых выбраных — 11 беспартыйных, 4 камуністы, 3 аграрнікі. У другі тур выйшлі: экс-спікер Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, былы кіраўнік Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, былы пасол у Польшчы Георгій Таразевіч, Генадзь Карпенка, Віктар Ганчар. Выйшлі ў II тур 25 прадстаўнікоў БНФ, сярод якіх знаходзяцца Валянцін Голубеў, Станіслаў Гусак, Сяргей Антончык, Юрый Беленькі і іншыя. Лідэр БНФ Зянон Пазьняк, які балаціраваўся ў Смаргоні, набраў 47% галасоў, аднак гэтай колькасці недастаткова для перамогі. Згодна з выбарчымі правіламі, у гэтай акрузе не будзе другога тура галасавання.

## Бесталковыя выбары

Усіх прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат выкрасліў са спіса на выбарчым участку прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які заявіў: калі выбары ў ВС усё ж не адбудуцца, новых не будзе. Прэзідэнт падкрэсліў, што не мае намеру выкідваць мільярды рублёў на бесталковыя выбары, на якія народ не ходзіць. У выпадку правалу паўторных выбараў, калі не ўдасца сфарміраваць новы парламент, Аляксандр Лукашэнка мае намер, як і абяцаў, увесці прамое прэзідэнцкае кіраванне.

## Парушэнні аднак былі

Наглядальнікі ад Парламенцкай Асамблеі АБСЕ і Еўрапарламента адзначылі высокую актыўнасць беларускіх грамадзян на паўторных выбарах. Сур'ёзных парушэнняў, падкрэслілі яны, не было, аднак наглядальнікі ад Еўрапарламента звярнулі ўвагу на недастатковую інфармаванасць выбаршчыкаў аб кандыдатах, на выпадкі дыстанцыравання наглядальнікаў пры падліках галасоў і некаторыя іншыя парушэнні.

## Узаемныя разлікі

У ходзе нядаўняга візіту ў Польшчу прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір прапанаваў польскаму прэм'еру Юзэфу Алексаму весці на пачатковым этапе супрацоўніцтва разлікі ў польскіх злотых, аднак польскі бок далей абяцання падумаць не пайшоў. Магчыма, што да пытанняў аб паскарэнні ўвядзення ўзаемаразлікаў у нацыянальных валютах кіраўнікі ўрадаў Беларусі і Польшчы вернуцца яшчэ сёлета.

## Выстава караткевічанаў

Да 65-годдзя з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча ў чытальнай зале аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук арганізавана выстава „З рукапіснай спадчыны пісьменніка”. На ёй экспануюцца матэрыялы з асабістага архіва пісьменніка: партрэтныя замалёўкі і сяброўскія шаржы, малюнкі самога Караткевіча, яго пісьмы да сяброў і іншыя дакументы.

## Падручнікавая камісія

Першае пасяджэнне дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы адбылося 1 снежня ў Кабінеце Міністраў пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Уладзіміра Русакевіча. Абмеркаваны пытанні звязаныя з арганізацыяй работы гэтай камісіі і яе функцыямі, заслуханы інфармацыі Міністэрства адукацыі і навукі аб ходзе падрыхтоўкі і выданні новых падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў у сувязі з новым зместам адукацыі ў рэспубліцы.

## Упарты долар

Не страчвае папулярнасці ў беларускіх банкіраў амерыканскі долар. У ходзе чатырох таргоў тыдня, які закончыўся на міжбанкаўскай валютнай біржы, яны зноў скупілі каля 30 млн. „зялёных”. Але нягледзячы на штодзённае перавышэнне амаль у два разы попыту над прапанаваннем, курс долара ўпарта трымаецца на адной адзнацы — 11 500 бел. руб. Затое рэзка пачала худзець нямецкая марка.

# ШАСТАКОВА ХАЙ ЖЫВЕ!

Шастакова, Чыжоўскае гміны, усяго які кіламетр ад шашы Бельск—Гайнаўка, але нейк не даводзілася мне там быць. Таму і здзіваўся ў нядзелю 26 лістапада, што хаця вёска невялікая, але вельмі акуратная, дагледжаная. А нагода пабываць там была — у сённяшні час — незвычайная. У Шастакове адкрывалі вясковую святліцу.

На ўрачыстасць зышліся жыхары вёскі, папрыязджалі з гарадоў родзічы, прыбылі запрошаныя госці, між іншымі пасол **Сяргей Плева**, і дырэктар Аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку **Казімеж Дэркоўскі**.

Гмінны асяродак культуры ў Чыжах падрыхтаваў з гэтай нагоды „Восеньскія сустрэчы з фальклорам". Пасля таго, як будынак пасвяціў настаяцель Новаберазоўскага прыхода айцец **Яўген Здраеўскі**, на новай сцэне запрэзентаваліся „Чыжавяне", „Незабудкі" з Курашава і жанчыны са Збуча ды тры дзіцячыя калектывы з пачатковых школ з Кленік, Курашава і саміх Чыжоў.

У час канцэрта была нагода пагаварыць з жыхарамі пра іхняе сяло. Раскрыў я, між іншым, таямніцу росквіту мясцовасці. Зямля вакол Шастакова толькі дзе-нідзе чацвёртага класа, а так звычайна трэцяга, зменяраваная. Людзі дружныя, працавітыя, шмат маладых гаспадароў. Сярод іх солтыс, а заадно і радны Гміннай рады, **Міхал Мароз**.

— Я намаўляю людзей, каб арыентаваліся на цукровыя буракі, — кажа ён, — бо гэта рэнтабельная спецыялізацыя. З гаспадаркі старога тыпу, што ўсяго па-троху, няма ніякага толку. Трэба рашацца на нешта адно. А буракі добра родзяць і са збытам няма праблем.

У зале, тым часам, гасцям расказаў, а мясцовым прыпомніў гісторыю пабудовы яе ініцыятар і першы старшыня камітэта пабудовы святліцы **Ян Граматовіч**.

— Калі я прыступіў сюды, — гаварыў, — мой цесць намовіў мяне запісацца ў партыю. Я гэтага не саромеюся і сёння, бо дзякуючы ініцыятыве пярвічнай партыйнай арганізацыі мы шмат што зрабілі. Спачатку ў грамадскай працы я памагаў цесцю, як цяпер Круль Мачульскаму ў КПН, а потым і сам стаў сакратаром і заўсёды намагаўся мабілізаваць суседзяў, каб зрабіць нешта карыснае нашаму асяроддзю. Так рамантавалі мы дарогі, так паклалі асфальт у вёсцы. Магчыма, калі вылілі мы ў 1989 годзе гэтыя фундаменты, людзі крыху былі змучаныя грамадскімі пачынамі. Ды і час на будову быў неадпаведны.

Цяпер Ян Граматовіч жыве ў Гайнаўцы, але не парывае кантактаў з Шастаковам. Бывае тут ледзь не штодзень, таксама як і солтыс, вырошчвае буракі.

Святліцу збудавалі, практычна, за два апошнія гады. Матэрыял і працу спецыялістаў аплаціла гміна, а ўсе астатнія работы жыхары выканалі грамадскім пачынам. Нават у лес па драўніну ездзілі.

— Без дапамогі войта і Гміннай управы мы б самі ніколі яе не пабудавалі, — падкрэслівае солтыс, — але ж зноў і гміна не ўзялася б за пабудову, калі б не было ад нас, знізу, ініцыятывы.

Войт **Рыгор Мацкевіч**, у сваю чаргу, падкрэслівае, што Шастакова, перспектыўная вёска. У Пачатковую школу ў Чыжах давозяць адтуль шаснаццаць дзетак. Дзеля іх і, галоўным чынам, святліца будавалася.

— Замест таго, каб гойсалі без справы па вуліцы, якую шкоду рабілі, — кажуць мне на сходках курыльшчыкі, — то збяруцца тут, можа чым карысным зоймуцца.

**Сцяпан Зянюк**, цяпер жыхар Беластока, але ўраджэнец Шастакова, выказаў спадзяванне, што можа ў такой прыгожай святліцы нейкі гурток беларускі ўзнікне, можа песенны, або танцавальны, ці драматычны.

Наогул, аднак, людзі будавалі святліцу з думкай пра такія ўрачыстасці як вяселлі, хрысціны. У хаце заўсёды тады робіцца многа балагану, а тут будзе выгадна — ёсць вялікая гасцінная зала, са сцэнаю для аркестра, ёсць адпаведныя памяшканні на кухню, раздзявальню. Засталося яшчэ толькі падключыць ваду і выканаць некаторыя аддзелачныя працы.

Міхал Мароз не скрывае, што гэты будынак аблегчыць і абавязкі солтыса.

— А то не было нават дзе сход правесці. Збіраліся мы па хатах, але ведаеце, як то бывае. Людзі і накураць і, асабліва зімою, балота нанясуць. Цяпер нікому ўжо не будзем дакучаць.

Урачыстасць адкрыцця святліцы працягвалася, мабыць, усю ноч. Пасля канцэртаў гаспадары запрасілі гасцей на багаты пачастунак. А пазней была наладжана для моладзі танцавальная забава.

Мне хочацца працытаваць словы песні, якую спецыяльна з гэтай нагоды склалі „Чыжавяне": „Шастакова хай жыве! Людзям песенькі пяе, дай Бог!"

**Мікола Ваўранюк**

# У адрас гандлярам

У канцы кастрычніка ў чаромхаўскім ГОКу быў арганізаваны кірмаш заграгранічнай вопраткі. Адзенне было ношанае, цэны — невялікія.

Ужо першага дня прададзена большую частку тавараў. У наступным прадаваліся астаткі са скідкай напалову. Карысная, відаць, прадаўцам была такая таргоўля і пакупнікі былі задаволеныя.

Кірмаш арганізаваў прадавец з Турослі, а Дом культуры дазволіў яму карыстацца залай (за аплатай).

Мерапрыемства прайшло паспяхова. Прадавец абяцаў, што яшчэ ў снежні зноў прыедзе ў Чаромху з новымі таварамі.

Шкада, што мясцовыя работнікі гандлю не здагадаліся самі арганізаваць такі кірмаш.

У Чаромсе і на ўжываныя рэчы знаходзяцца пакупнікі. Не кожны можа дазволіць сабе на новыя спраўнкі.

Падумайце аб гэтым паважаныя кіраўнікі гандлю з Чаромхі.

**(ус)**

# Лясная гміна

Лясы займаюць 57% тэрыторыі Гарадоцкай гміны. Яны пераважна дзяржаўныя і належаць надлясніцтвам Жэдня і Валілы. Ступень аблесенасці ў гміне не аднолькавая — выступаюць даволі вялікія суцэльныя комплексы Кнышынскай пушчы, шмат пасадак і маладняку, але выступае і бязлессе. Яшчэ і зараз сотні гектараў слабой зямлі т.зв. няўдобіцы ідуць пад аблясенне. Прадбачваецца пасадка лесу на 1 743 гектарах такой зямлі. Калі гэта будзе здзейснена, тады плошча лясоў павялічыцца да 28 148 га, што складзе 65,5% гміннай тэрыторыі.

Чарговыя лесанасаджэнні будуць праведзены між іншым і з тае прычыны, што ў Гарадоцкай гміне выступае малое зацікаўленне сельскагаспадарчай прадукцыяй. Выступаюць тут дзярнова-слабападзолістыя глебы ды многа няўдобіцы. Пераважае зямля пятага і шостага класаў. Чацвёртага класа зямлі, на якой ад бяды можна сеяць пшаніцу і болей патрабавальныя сельскагаспадарчыя культуры, у гміне не больш як 7%. Шмат слабых зямельных угоддзяў здаюць для аблясення. Такім чынам лясная зона ўвесь час павялічваецца.

**(яц)**

# Дзень старэйшын

Адным з цікавейшых мерапрыемстваў арганізаваных у Чаромхаўскай гміне з'яўляецца Дзень старэйшын.

Сёлета сеньёры святкавалі ў канцы кастрычніка, а ў мерапрыемстве ўдзельнічала дзвесце дваццаць пенсіянераў і інвалідаў. Такога масавага гуляння даўно не было ў мясцовым ГОКу. Працаўнікі Дома культуры і арганізатары гэтага мерапрыемства абавязаны ўсё гэта вялікай рэкламе, якую правялі супольна са святарамі праваслаўнай Царквы і каталіцкага Касцёла.

Вось што кажа Тамара Кердалевіч — кіраўнік ГОКу ў Чаромсе:

— Ужо трэці год, як пенсіянеры збіраюцца ў Дзень старэйшын у большым крузе. Калісьці не было на тое грошай у Гміннай управе, спонсараў таксама, таму і збіралася ўсяго некалькі дзесятак чалавек. Зараз з дапамогай прыйшлі мясцовыя чыгуначныя прадпрыемствы і прафсаюзы. І так, напрыклад, Шпалапрапітачны завод прызначыў 3 мільёны старых злотаў, Прадпрыемства рухомага саставу такую ж суму, а прафсаюзы Паравознага дэпо — 1 800 тыс. зл., Гмінная ўправа — 1 мільён.



*Так гулялі чаромхаўскія пенсіянеры.*

— Пенсіянеры мелі багаты пачастунак у гэтым годзе, — працягвае мая субяседніца. — Кава, гарбата, фрукты, пірожнае, напіткі, усім хапіла...

Весяліў прысутных ігрой на гармоніку ведомы тут музыкант Рыгор Рэпка. З мастацкай часткай выступіў украінскі калектыў „Вэрус".

Усім прысутным, пенсіянерам і запрошаным гасцям з Гайнаўкі і Беластока надоўга застанецца ў памяці чаромхаўскае мерапрыемства. Такіх дзён нельга забыць.

Асноўны арганізатар святкавання — кіраўнік ГОКу Т. Кердалевіч сказала, што ў наступным годзе трэба будзе яшчэ зрабіць лепшую рэкламу і такое мерапрыемства арганізаваць два разы ў год, бо за раз нельга ўсіх памясціць. Але ўсё гэта будзе залежаць ад спонсараў і атрыманых на тое грошай.

**Уладзімір Сідарук**
**фота Тамары Кердалевіч**

# Сум над возерам

30 лістапада гэтага года паехаў я над Семяноўскае вадасховішча, між іншым на месца былой вёскі Лука і ў прысёлак вёскі Тарнопаль у Нараўчанскай гміне. На беразе возера агарнуў мяне шэры, асенні сум. Стаяў якраз і такі ціхі шэры дзень, без аднаго хаця б праменьчыка сонца. Было тут шэра і пуста — вядома ж, зараз не адпачынковы сезон.

Убачыў я колішні магазін, пабудаваны, дзякуючы намаганням тадышняга старшыні Гайнаўскай ПЗГС Кастуся Майсені, у грамадскім пачыне. Цяпер там — руіны. Няма ўжо ні вакон, ні дзвярэй, а толькі, як кажуць, скразняк гуляе. Асталіся муры ды столь. Са сцен адпадаюць тынкі. Усярэдзіне ўсялякі друз, на падлозе валяецца старая вопратка, пустыя бутэлькі, кансервавыя бляшанкі. Знікла ўсё тое, што раней было электраўстаноўкай.

Сцены былой крамы ў Тарнопалі звонку і ўсярэдзіне спісаныя сіняй і зялёнай аэразольнай фарбай. След, які пакінула пасля сябе прыязджаючая над возера моладзь. Яна гэтак адзначыла сваю пабыўку ў мінулым годзе і сёлета.

Агарнуў мяне горкі сум, калі ўбачыў такое... Помню вышэйзгаданыя аб'екты ў поўнай красе. Яны добра служылі мясцовым жыхарам. А зараз — зруйнаваныя, і, мабыць, ніхто не верне ім ранейшай прыгажосці.

Неабходна дадаць, што ўласнікам апісанай мною крамы з'яўляецца Гмінная спулдзельня ў Нараўцы.

**Янка Падарожнік**

## Ці адкрыюць бензастанцыю ў Нараўцы?

Спулдзельня сельскагаспадарчых і прамысловых паслуг (СС і ПП) у Нараўцы закрыла бензастанцыю ды абгарадзіла яе сеткаю. Тут можна было купіць гаручае для аўтамашын і трактароў. Цяпер цераз плот можна ўбачыць чатыры напаўразабраныя размеркавальнікі. Нават дашка над ім няма каму адрамантаваць.

Ходзяць чуткі, што калі кіраўніцтва ССіПП назбірае грошай, тады і адкрые бензастанцыю. Калі гэта будзе, пакуль невядома. Па ўсяму відаць, што жыхары Нараўкі і суседніх вёсак будуць яшчэ доўга ездзіць за бензінам у Новае Ляўкова, Гайнаўку або Міхалова.

**Янка Зарэчны**

## Смецце пакрые снег?

Звычайна ў гарадах каля пад'ездаў шматпавярховых дамоў стаяць сметніцы. Цікавы падыход да іх зімою праяўляюць камунальныя службы ў Бельску-Падляшскім. Бяруць, проста, у лістападзе і хаваюць іх дзесьці так да красавіка. Няўжо жыхары Бельска зімоваю парою не смецяць? А можа адказныя за гэта прыйшлі да высновы, што смецце пакрыецца снегам?

Толькі, што будзе, калі зноў зіма акажацца бясснежнай?

**ак**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1993 - 04 - 04.**

Ян Максімюк узяўся — надта энергічна! — рэдагаваць *Сьцяну* і выбар апавяданняў у дадатак да аповесці (*Амэга* паабяцала яму стыпендыю). У загаловак тома прапануе — *Доўгая сьмерць Крынак.* (...)

Думаю: пашэнціла з рэдактарам! Ёсць у Макса смак і стараннё.

**1993 - 04 - 14.**

Нечакана наведаўся Вячка Станкевіч, шэф Беларускай праграмы *Свабоды* (Мюнхен). — Мае радыёгутаркі ўжо ідуць у эфір, у цыкле *Чалавек і грамадства* (аб чым я, на маю ганьбу, якраз і не ведаў яшчэ, хоць даволі рэгулярна слухаю г. перадачы, 16.00—17.00). Падабаюцца яму! А для мяне галоўнае тое, што на некаторы час буду мець прыстойную жыццёвую стабілізацыю; нешта накшталт штата.

**1993 - 04 - 30.**

Пятніца. У панядзелак пахавалі Юры Латышонка. Сваё слова над Яго труною я не даў рады скончыць... Адыходзіць пакаленне, якое захавала беларускі дух у найбольш змрочны час. Нешматлікае, амаль рэліктавае.

(...) З Максам канчаю рыхтаваць да друку *Сьцяну*, напісаную шаснаццаць гадоў таму, і трохі выбраных апавяданняў.

**1993 - 05 - 04.**

(...) Даведваюся — штораз паміраюць героі маіх апавяданнейкаў. Ліля Гімік, па мужу Дандзіла, (56 г.). Свачка яна мне далёкая з боку маці; з Жукоўскіх. Памятаецца, хацеў я быць нарачоным ёй; здаецца, у лістападзе 1955 г. паехаў да іх, у Букштэль... Была гадавіна чагосьці і чуў тады па радыё Максіма Танка.

**1993 - 05 - 15.**

(...) Учора даканаў мяне Лёнік Тарасэвіч, чатыры гадзіны распавядаючы пра свае дзікія перыпетыі ў засавечаным (саветы) Менску, у якім, нарэшце, удалося яму 12.V. адчыніць манаграфічную выставу палотнаў, прадстаўнічых для ягонае творчасці (дапамагалі Кашкурэвічы).

Што ні дзень (з нядзелі) мноства пісаніны, нават такое, як пераклад польскага Статута Беларускага Саюза ў РП. Успомнілася, як 37 гадоў назад мітусіўся я над падобным перакладаннем Статута БГКТ. Тады не было каму, акрамя мяне, і цяпер?

Стэфан Браткоўскі сказаў (у TV) цікавую фразу: — Наша пакаленне ўжо памерла, толькі ніхто нам пра гэта яшчэ не сказаў.

**1993 - 05 - 26.**

Заўчора вярнуўся я з Гданьска. Сёння ўжо ў стане нешта пісаць. Запрасіў быў мяне туды ўсё той жа тандэм: Мацей Лісіцкі, Марк Стэмпа. На 22-га і 23-га, дзеля гутарак пра Беларусь у рамках дамініканскай праграмы Мај па Górce (Мікалаеўскі касцёл дамініканцаў). Апекаваўся мною манах... Юзэф Пуцілоўскі?.. З'явіўся сын брата паэта Сваяка, Эдмунд Становіч (дашлю яму нешта).

Гданьск і ўвесь гэты Трыгорад сох ад трапічнае гарачыні! Людкове палівалі вадаправоднай вадою свае, пясчаныя тут, агароды. Маё слабое самаадчуванне яшчэ паглыбіў Уладзімір Сянько, пасол Беларусі. Ён быў напрасіўся, раней, з'ездзіць са мною туды (прагаварыўся я яму нарэшце наконт сваёй г. паездкі), выкручваючыся ад нейкай гасціны ў пасольстве). Даў ён мне зразумець тады — па тэлефоне — што чакае дапамогі, ад мяне, у сферы кантактаў у Трыгорадзе (арганізуецца беларускі порт у Гдыні). Гэта зацікавіла асабліва Марка Стэмпу, які і наладзіў неафіцыйную (так жадаў пасол) сустрэчу беларускаму дыпламату з гаспадарамі Гдыні (мэр і інш.). Скончылася тым, што Сянько праігнараваў усё гэта. Я расхварэўся! Даў сабе зарок быць здаля ад савета!

Словам, нешта ў стылі чорных прыгодаў Лёніка ў Менску. Звяжыся з саветамі — будзь гатоў на паранойю!

Але той жа Сянько знаходзіў час і даваў рады быць пунктуальным на маіх аўтарскіх сустрэчах (перш у клубе БГКТ, потым у дамініканцаў). (...) А там, дзе стаўкай быў мой аўтарытэт, не з'явіўся (на абед з мэрам). (...)

**1993 - 05 - 27.**

Тое, што даходзіць да мяне пра З'езд БГКТ (23-га, нядзеля) выклікае шок! Барскі дакладна ашалеў! За ім іншыя набрахаліся на маладабеларускія арганізацыі, не дапускаючы і думкі пра якое-колечы паразуменне. Ім не трэба супрацоўніцтва. Ім трэба свая важнасць. Іх гасцямі былі наменклатурнікі Кебіча, а не дзеячы апазіцыі; саветы, а не беларусы.

БГКТ — наш матачнік камунякоў. Аж дзіўна, што паблаславіў іх спецыяльным пасланнем уладыка Сава...

Мініяцюрная рэпліка гэтай сітуацыі ў Менску.

**1993 - 06 - 06.**

Толькі што з Цеханоўца, дзе ў Музеі сельскай гаспадаркі (— Ушынскі) праходзіў, учора і сёння, семінар XXXV-годдзя *Белавежы* (ездзіў з Таняй, бо слабое ў мяне самаадчуванне). Былі: Артымовіч, Лукша, Занеўская, Чыквін, Макс, Швед, Целушэцкі... Не з'явіліся: Баена, Барскі, Валкавыцкі, Ул. Гайдук... З Менску меўся быць Тычына. Абяцаў заехаць пасол Беларусі. Але напраўду прыехаў — Міхал Ягела (з жонкай), віцэ-міністр культуры Полычы; і яго супрацоўнік Павел Казанэцкі (бюро нац. мяншыняў). Пабыў бурмістр г. горада, учора.

Семінар не зусім адбыўся так, як задумалі. Традыцыйна ўжо падвялі саветы. І — на дзіва! — фрэквенцыя. Было даволі прыкра, але часцей прыемна ўсё-такі (камфорт абслугі). Ня блага пагаварылі з мін. Ягелам. Найбольш пра неабходнасць стварэння Інстытута Беларускай Культуры ў Беластоку; таксама пра неахайныя адносіны школьнай адміністрацыі да прадмета беларускай мовы. Наладжанне ў Гародні і ў Менску рэгулярнае продажы выданняў *Белавежы.* А яшчэ і пра канцэпцыю працы будучага Беларускага Музея ў Гайнаўцы (будаваць, дык будуюць, але што ў ім павінна быць і як?!). (...)

*(Працяг будзе)*

# 75 гадоў таму назад

Летам 1920 г. польска-бальшавіцкая вайна набліжалася да канца. Пасля перамогі пад Варшавай палякі нанава занялі палову Беларусі, паводзячы сябе таксама нахабна, як раней чырвонаармейцы. На беларускай зямлі не спыняўся гвалт і тэрор з боку чужых вайсковых фармiраванняў. Беларусы, якія не прымалі ўдзелу як суб'ект, у гэтай вайне пацярпелі найбольш. Беларусь традыцыйна стала арэнай змагання чужых войск, а яе жыхары — ахвярамі здзекаў дэмаралізаванай салдатні. Сталася тое, чаго хацелі пазбегчы беларускія палітыкі, ствараючы ў сакавіку 1918 г. Беларускую Народную Рэспубліку. Суседзі аднак не зважалі на волю беларусаў жыць у сваёй дзяржаве. Бачылі краіну, якая не мела ўзброеных сілы, каб абараняць свае межы. Таму як першыя ўварваліся палякі, пасля прыйшлі з усходу бальшавікі, якія працягвалі найгоршыя традыцыі расейскага імперыялізму. У кастрычніку 1920 г. паміж палякамі і бальшавікамі наступіла часовае змірэнне, якое адкрыла дарогу да далейшых мірных перамоваў. Цягнуліся яны вельмі доўга і толькі ў сакавіку 1921 г. быў падпісаны паміж палякамі і бальшавікамі пакт, які дзяліў Беларусь паміж яе суседзямі. Беларусам цяжка было змірыцца з акупацыяй Бацькаўшчыны. Ідэя Беларускай Народнай Рэспублікі была яшчэ жывая сярод грамадства. Найбольш патрыятычная аказалася аднак Случчына.

На пачатку кастрычніка 1921 г. зямлю гэтую пакінулі палякі, якія згодна з пагадненнем з бальшавікамі вымушаны былі адступіць на захад. Новыя акупанты яшчэ не прыйшлі, таму Случчына апынулася пад уладаю Беларускага Нацыянальнага Камітэта. Камітэт кантраляваў сітуацыю на тэрыторыі 15 паветаў. 14 лістапада склікаў ён з'езд Случчыны. 107 дэлегатаў акрэслілі сваю ўладу як падпарадкаваную Найвышэйшай Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі, выступілі за адбудову дзяржавы ў этнаграфічных межах і супраць прысутнасці чужых войск на тэрыторыі Бацькаўшчыны. Абазначала гэта вайну з акупантамі. Случчына апынулася на баку савецкай зоны ўплываў, таму адтуль прыйшла новая агрэсія.

Рада Случчыны, якую З'езд устанавіў сваім выканаўчым органам, хутка пачала арганізаваць міліцыю і вайсковыя фармiраванні. 21 лістапада Рада Случчыны выдала адозву да грамадзян, у якой гаварылася, што нягледзячы на сілу ворагаў трэба бараніць Беларусь і яе жыхароў. „Беларусь павінна быць вольнаю, незалежнаю рэспублікай у яе этнаграфічных межах”, — сцвярджалася ў адозве. На працягу кароткага часу на заклік Рады пад бел-чырвона-белым сцягам і Пагоняю сабралася 10 тысяч чалавек. Некаторыя былі ўзброеныя толькі ў косы і сякеры.

27 лістапада пачаліся баі. Омская дывізія, якую бальшавікі кінулі супраць змагаючыхся за сваю незалежнасць беларусаў, патрабавала месяц часу, каб разбіць абарону слуцкіх патрыётаў, якіх успамагала пяцьсот добраахвотнікаў з Беласточчыны. Не стрымаўшы атакаў чырвонаармейцаў, случчакі перайшлі польскую мяжу, дзе былі абяззброены палякамі. Пару тысяч салдат са слуцкай брыгады трапіла ў польскія канцлагеры для ваеннапалонных, дзе большасць памерла ад голаду і хваробаў. Сёлета мінула 75 гадоў ад Слуцкага паўстання, калі народ упершыню ўзброеным чынам гатовы быў абараняць незалежнасць свае Бацькаўшчыны. Гадавіна гэтая прамаўчалася ў г.зв. беларускіх сродках масавай інфармацыі. На жаль, Бацькаўшчынай кіруюць надалей тыя сілы, якія ў 1920 г. затапталі волю народа на сваю свабоду і незалежнасць.

Рэд.

# Хто сказаў, што Сербія мала?

Гэты радок з сербскай песні таўчэцца мне па галаве ад нейкага года. Сёлета даказаць, што Сербія малая, узяліся амерыканцы, і відаць, дакажуць.

Сербы здаўна мяне зачароўвалі сваім тэмпераментам і ваяўнічасцю. „У нас нават паліцаі больш адважныя, як у другім месцы”, — наракаў партызан, адзін з герояў рамана Міхайлы Ляліча „Гара слёз”. У рамане расказваецца пра чарнагорцаў, але Чаргагорыя гэта такая сербская Спарта.

Тое, што сербы прайграюць вайну, здавалася мне проста немагчымым. Тым часам прайгралі, ды яшчэ няслаўна. З мараў аб Вялікай Сербіі застаўся адно дым.

Вялікая Сербія павінна была ахапіць (апрача Сербіі і Чарнагорыі), усю Боснію, Далмацыю, Крайну і большую частку Славоніі. Такая была б Сербія, калі б сербы надумаліся ствараць якраз Вялікую Сербію, а не ствараць супольную дзяржаву з харватамі і славенцамі пасля першай сусветнай вайны. Сёння ніхто не аспрэчваў бы межаў Сербіі, апрача харватаў-недасекаў. Але сёння сербы адвявалі з усяго вышэйзгаданага толькі палову Босніі, ды і тое не зусім.

Гэтае нечуванае ад часоў Косавага поля паражэнне будзе хваляваць сербаў пакаленнямі. Сербам таксама, а не мне, шукаць віноўнікаў гэтага паражэння. Усё-такі не магу паўстрымацца ад каментарыя.

На маю думку, сербамі кіравалі (і кіруюць) людзі здольныя да палітычных інтрыгаў, але без палітычнага ўяўлення. Мілашэвіч і ягоныя кампаньёны намагаліся выпхнуць з Югаславіі харватаў, але затрымаць пры нагодзе Крайну. Як забяспечыць гэтую Крайну, загадзя не падумалі.

Не прадугледзелі яны самаадлучэння Босніі. У тым нават цяжка іх дакараць, бо дурноту Мілашэвічавай кампаніі перабіў сваім вар'яцтвам Ізятбегавіч з іншымі „бегамі”. Калі Мілашэвічы гулялі лёсам паасобных земляў, нейкіх акраінаў, Ізятбегавічы паставілі на адну карту лёс цэлай сваёй нацыі. Мусульмане гэта яшчэ больш прайграны за сербаў народ, але не думаю, каб гэта было суцяшэннем камунебудзь.

Кажуць, калі Боснія абвясціла адлучэнне, Мілашэвіч дагаварыўся з Туджманам аб падзеле Босніі між сербаў і харватаў. Пры нагодзе „вярнуў” таму Крайну і Заходнюю Славонію. Туджман сваё ўзяў, а вось Мілашэвіч не здолеў. Выявілася тут розніца між генераламі і палітработнікам.

Мілашэвіч відавочна струсіў. Магчыма, яго вяр'яцтва было проста за малое на гэтую вар'яцкую гульню. Асноўная памылка Мілашэвіча была ў тым, што не адважыўся ён правесці сапраўднай вайны. Спытае хтосьці, няўжо ж гэтая вайна не была сапраўднай? Сотні тысяч забітых, усё выпаленае датла, мільёны бяздомных людзей блукаюць туды і сюды, а вайна нібыта несапраўдная?

Вайна была самая сапраўдная ў чалавечым сэнсе, а вось у мілітарным — не (з адным можа выняткам туджманаўскага бліцкрыгу ў Крайне). Аграмадная сербская (новаюгаслаўская?) армія стаяла і прыглядалася, як у Босніі перастрэльваюцца між сабою і рэжуць нявінных людзей збройныя банды.

Калі б Мілашэвіч на самым пачатку праявіў рашучасць Туджмана, і ў тры дні заняў усю Боснію (а лёгка было б гэта зрабіць) і накінуў ёй свой югаслаўскі парадак, увесь свет велічаў бы яго як дзяржаўнага дзеяча і міратворца. Тым часам ад імя Сербіі выступалі п'яныя рэзуны, якія некалькі гадоў абстрэльвалі Сараева. Аблога Сараева пад камерамі тэлебачання і стала цвіком да труны Вялікай Сербіі.

Увесь свет мог наглядаць, як сербы забіваюць прынамсі раз у тыдзень то старэчу, то дзіця. А калі нават не забівалі, то рабілі тое за іх хлопцы Ізятбегавіча („cel uświęca środki”). І свет паверыў, што сербы наехалі на Боснію, хаця гэтыя „наезнікі” паходзілі калі не з самога Сараева, дык найдалей з падсараеўскай вёскі. Вынік вядомы: не навялі парадку сербы, дык мусілі гэта зрабіць амерыканцы.

Вайна — не вайна давяла сербаў да такой дэмаралізацыі, што капітулявалі яны, падумаць, перад такім Клінтанам. А не сагнулі яны карку перад Гітлерам і Сталінам. І навошта было пачынаць усю гэтую разню? Пачынаю верыць, што ўсё ж такі лепшая наская тактыка і стратэгія: прыцярпецца.

Наканец хачу прыгадаць штосьці ўсім тым, якія ў згаданай бойні бачылі нейкую вайну ў абароне праваслаўя. У новай Югаславіі, гэтай Сербіі — не Сербіі, адзінай ненацыянальнай дзяржаве, якая засталася ад былой Югаславіі, праваслаўныя Раджаство і Вялікдзень не ёсць дзяржаўнымі святамі.

**Алег Латышонак**

*Віктар Ярмалковіч*

# На жыццёвых хвалях

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

### Варшава

Наперад і наперад імчаўся таварны цягнік. Пусты састаў спыняўся часамі і стаяў доўгія гадзіны. На адкрытай платформе ехала нас чацвёра са Шчучына. Ноччу было халаднавата, але затое днём пражыла сонца. На станцыях было поўна войска і эвакуіраваных грамадзян з прыфрантавых мясцовасцей. Часамі налятал і самалёты. Начамі з неба асвятлялі зямлю завешаныя на парашутах агні. На нашых вачах бамбардзіравалі Беласток. Горад гарэў.

Упершыню ў жыцці прыходзілася нам пакідаць свой край. Пераязджаючы раку Буг, цiснуліся мне ў галаву думкі: ці прыйдзецца вярнуцца, а калі так, то як?

* * *

Варшава. Без параўнання жылося тут лепей, чым у гарадах Беларусі. Было тут даволі многа крамаў з рознымі таварамі. Афіцыйна гандлявалі золатам, што на Беларусі было строга забаронена. Не трэба было стаяць у чарзе за хлебам, можна было ездзіць пасажырскімі цягнікамі і высылаць лісты па пошце. А перш за ўсё важнае было тое, што чалавек хадзіў тут спакойна, не баючыся, што хтосьці знянацку пашле табе кулю ў патыліцу або плечы. Часам можна было трапіць на нейкую страляніну і тады трэба было ўцякаць як найдалей ад гэтага месца, каб не папасці ў акружэнне.

Былі апошнія дні ліпеня 1944 года. Да цэнтра горада далятала водгулле фронту. На захад адступалі нямецкія калоны. Набліжаўся фронт.

Надышоў жнівень. Было ўжо пасля поўдня. У горадзе завылі сірэны і гудзелі безупынна. Што гэта такое? — узнікла пытанне. Скора з памяшкання на пятым паверсе, дзе мы жылі, убачылі мы ў некаторых пунктах горада слупы дыму. Пачуліся ўзрывы і страляніна. У Варшаве пачалося паўстанне.

Пад вечар страляніна ўзмацнілася, рух на вуліцах спыніўся. Паўстанцы сталі разбіраць тратуары і ставіць барыкады. Ноччу хіба ніхто не спаў. Прыйшла раніца. Па вуліцы Маршалкоўскай пайшлі яшчэ нямецкія танкі. Адзін з іх павярнуў у нашу вуліцу. Паўстанцы закрылі брамы, а да вокнаў ляцелі хлопцы з бутэлькамі з бензінам. Варожы танк, напаткаўшы барыкаду, павярнуў назад. Болей на нашай вуліцы танкі не паказаліся. Затое аднекуль час ад часу ўздоўж вуліцы пачалі жужжаць кулі.

Паўстаннем кіравала Армія Краёва. У адрозненні ад АК на Беларусі тутэйшая Армія трымалася згодна з інтарэсамі польскага народа, прытрымоўвалася незалежнай лініі, мела падтрымку і давер у народзе.

Дзе-ндзе можна было таксама ўбачыць хлопцаў з павязкамі на рукавах, на якіх красаваліся літары: **PAL** і **AL**. Паўстанцкі энтузіязм ахапіў усё насельніцтва горада. Хлопцы непасрэдна ішлі ў бой, дзяўчаты — у дапаможныя арганізацыі, старэйшыя будавалі і ўмацоўвалі барыкады, прабівалі ў падвалах праходы з аднаго будынка ў другі, рабілі падкопы. Немцы ўтрымліваліся толькі ў некаторых пунктах горада.

У барацьбе прайшлі першыя дні. Водгулле фронту аддалілася, прыціхла. Нямецкія вайсковыя часці з усіх бакоў сталі акружаць горад. Скора ўдалося ім заняць незабудаваныя прасторы. Час ад часу сыпаліся і громам разрываліся бомбы. Білі гарматы і свісталі артылерыйскія снарады. Асабліва дакучалі гэтак званыя „каровы" — мінамёты. Калі іх зараджалі, тады чуваць было водгалас перасоўванай па падлозе шафы і зараз потым ляцелі адна па адной шэсць—сем мінаў, якія разрываліся, разбуралі муры і нішчылі ўсё навокал.

То тут, то там уздымаліся ў неба слупы дыму. Гарэлі прыватныя дамы, сядзібы розных устаноў, бібліятэкі. Вецер разносіў попел і недагарэлыя карткі паперы.

Скора перастала працаваць электрастанцыя і водаправоды. Насельніцтва засталося без электрычнасці, вады. У горад не пастаўляліся прадукты. Пачаўся голад.

Пад кіраўніцтвам і камандай акаўцаў ды пад нямецкім абстрэлам мы са шваграм Аляксандрам і іншымі варшавякамі хадзілі падваламі і падкопамі да складу з пшаніцай. Прынесенае збожжа забірала паўстанчае войска, частку пакідаючу прынесшаму, а мы гэтую пшаніцу малолі ў ручных кавамолках і з атрыманай мукі пяклі на пліце аладкі. Ваду можна было дастаць толькі ў некаторых водаразборных калонках і перад імі выстройваліся доўгія чэргі. Часамі было спакойна, але часта ў чаргу падалі гранаты і тады здаралася рознае.

Мы жылі ў шваґра Аляксандра. Кватэра знаходзілася на апошнім, пятым паверсе. Пасля некалькіх дзён паўстання ў кватэру папалі снарады і ўсё загарэлася. Мы сталі тушыць пажар, насілі ваду, сыпалі пясок. З нашай кватэры засталася толькі падлога, але рэшта дому ўцалела. Патушыўшы агонь, мы сталі разглядацца па пажарышчы і ў куце заўважылі паўметравы снарад таўшчынёю ў нейкіх 25—30 сантыметраў. Не цяжка ўявіць, што сталася б з намі, калі б снарад разарваўся падчас тушэння агню. Сышлі мы тады ў пустое памяшканне два паверхі ніжэй, а па нейкім часе перайшлі жыць у падвал.

Праходзілі дні, змаганне працягвалася. Немцы сістэматычна бамбардзіравалі і абстрэльвалі квартал за кварталам. На небе гудзелі самалёты. Прыляцелі яны з дапамогай з Захаду. На парашутах пачалі скідаць пакункі. Вецер разносіў іх у розныя бакі, але большасць дабра траплялa ў нямецкія рукі.

Пасля месяца змагання на ўсходзе зноў заварушылася. Пачалося наступленне савецкай арміі, але, дайшоўшы да Віслы, прыпыніліся. Тэрыторыю над Віслай трымалі ўжо ў сваіх руках немцы. Выбрацца з горада было немагчыма. Варшава і далей заставалася ў нямецкім акружэнні.

Паўстанцы энтузіязм, які раней ахапіў усё насельніцтва горада, з ходам баявых дзеянняў гас. Прыелася насіць раненых і хаваць забітых. Дакучалі голад, няпэўнасць жыцця, безнадзейнасць. Агульнай нормай стала пагаворка: што маеш зрабіць сёння, пакінь на заўтра, а што маеш з'есці заўтра, з'еш сёння, бо ніхто не быў упэўнены ці дажыве да наступнага дня. Пачаліся наракання і расказванне анекдотаў пра акаўскае паўстанчае кіраўніцтва. Многія жартавалі, што „Монтэр" (кіраўнік АК на Варшаву) разманціраваў горад і на яго месцы парасце бор (Бор-Камароўскі быў галоўным камендантам АК).

У палове верасня трымаліся толькі цэнтральныя кварталы горада. Цяпер увесь цяжар ваенных дзеянняў лёг на гэтых кварталах. Ачэпленая паўстанчая Варшава яшчэ баранілася, але кожны ўжо бачыў, што сітуацыя паўстанцаў ёсць зусім безнадзейная. Частка насельніцтва ва ўмовах голаду і бесперспектыўнасці пачала выходзіць з горада.

У канцы верасня пайшлі чуткі, што кіраўніцтва АК вядзе перагаворы з немцамі. Надышоў кастрычнік. Армія Краёва аб'явіла капітуляцыю і па загаду немцаў прыказала насельніцтву пакінуць горад. Закінулі мы сваю маёмасць на плечы і разам з сям'ёй Аляксандра і іншымі пайшлі ў невядомае. Мінуўшы Маршалкоўскую вуліцу, уліліся мы ў агульны паток бежанцаў, які накіроўваўся ў бок чыгуначнай станцыі. Па абодвух баках вуліц стаялі ўзброеныя нямецкія салдаты. Маўчалі яны, моўчкі ішлі высяленцы.

Паход жыхароў Варшавы напамінаў пахавальнае шэсце.

*(працяг будзе)*

<u>У кіпцюрах цэцерука</u>

# ЛАПУХІ

Жыхары вёскі Лапухі — самы спакойны і найбольш мірны народ у свеце. І хіба таму, спіханыя мацнейшымі і больш ваяўнічымі суседзямі, апынуліся тут, сярод балот і ляснай глушы, дзе нават вароны хварэюць самотаю, а людзі не ўміраюць ад старасці, а проста ад нуды.

У такіх умовах жылі лапухоўцы, не чапаючы нікога і да іх таксама ніхто не прыдзіраўся, калі б не лічыць прыдзіркай таго, што ўжо пры новай Польшчы нейкі павятовы чыноўнік перахрысціў Лапухі на Białe Błota. Лапухоўцы пахрысціянску адпусцілі той грэх незнаёмаму чалавеку. Зрэшты, і так зусім яўна ў далейшым карысталіся традыцыйнай назвай.

У пачатку васьмідзесятых гадоў Зіновій Лапух выпырхнуў у шырокі свет. Схапіўшы гайнаўскага бога за лыткі, хлопец уздымаўся ўверх памаленьку, хаця рэгулярна.

— Зэнэк, — рэкамендаваўся пры знаёмстве, а аднавяскоўцы абышліся з Зэнэкам так, як калісьці з павятовым чыноўнікам, г.зн. абыякава.

Напрыканцы васьмідзесятых наш Зэнэк, як студэнт політэхнічнага інстытута, апынуўся ў Беластоку. У той самы час разбуджаны ў Еўропе подых нацыянальнай свабоды дайшоў і ў горад над Бялкай. Студэнтам да іхніх традыцыйных заняткаў — залікаў чарговых экзаменаў і спажывання таннага віна — дайшлі новыя абавязкі: пошукі ўласнай нацыянальнасці і гістарычных каранёў.

Нешта канчалася, каб даць жыццё новаму. Такім чынам подых свабоды, забіраючы Зэнэка, радзіў Зянона.

У выніку доўгай і складанай эвалюцыі атрымаўся чалавек амаль дасканалы, чалавек, які ніколі не забудзе ні бацькоў, ні бацькаўшчыны.

Гэта ж дзякуючы Зянону і ягонай нястомнасці ды няўступчывасці, на дошцы перад вёскай Лапухі, побач з назвай Białe Błota, стаіць горда і ў вочы коле польскіх шавіністаў другая, свойская назва: Белае Балота.

Можна сказаць, гісторыя апісала крывое, бо крывое, але ўсё ж такі кола.

**Міхась Андрасюк**



# СТУДЭНТ ЖАБРАК, АЛЕ ПАН

*Працяг са стар. 1*

Ляжыш, і міжволі водзіш вачыма за прусакамі, якія бегаюць як шалёныя над тваёй галавой і не думаюць спыніць свой шалёны неразумны танец.

### Фінансы

Калі хто пытае, як жывецца беларускаму студэнту, адказваю — нядрэнна. І гавару так не таму, што я ўважаю, што такую думку мае беларуская грамадскасць, якая ўсё больш і больш зайздросціць такім як ты абібокам, якія адбіраюць „парадачным" людзям мядзвежую долю іх заробкаў. Іншыя ўважаюць, што ва ўсім вінаваты гэтыя, як ім там, дэмакраты, якія не кахаюць „Матушкі-Расеі", але палаюць страсцю да паганых імперыялістаў з захаду, а там ужо недалёка і да НАТО, галоўнай прычыны ўсіх бед у Беларусі.

Ты аднак добра ведаеш, што не ў гэтым справа, але, як падказвае твой беларускі менталітэт, маўчыш, бо невядома, у які бок абернецца выказанае. Добра ведаеш таксама, што сярод тваіх сяброў і знаёмых ёсць такія, якія супрацоўнічаюць з адпаведнымі органамі.

У інстытуце ўсё часцей і часцей бачыш прыгожых, даўганогіх, але залішне вымазаных дзяўчат, якім, як відаць, студэнцкае жыццё не перашкаджае ў пошуку альтэрнатыўных крыніц заробку. Жабрацкая стыпендыя прыпамінае ім, што перайманца навукай не трэба, бо за ўсё можна заплаціць.

Калі ўжо гаворым пра грошы, то варта ўспомніць тваіх сяброў — арабаў і афганцаў, якія, як правіла, з'яўляюцца на занятках толькі напрыканцы семестра, каб пагутарыць з выкладчыкам аб суме, якую трэба будзе выкладаць за чацвёрку на іспытах. Апошнім часам сярод мясцовых дацэнтаў запанавала мода на бясплатных экскурсіі ў Сірыю ці Йемен або Марока.

Бывае так, што пачутае ці ўбачанае выводзіць цябе з раўнавагі, але стараешся спыніць сваю злосць, угаворваючы сябе — кожны зарабляе як можа. А ты? На што чакаеш? Дзе ты бачыў студэнта, які толькі і выключна займаецца навукай? Гэта рэлікт былой эпохі. Глянь на сваю стыпендыю — нават за найлепшыя вынікі студэнцкай працы атрымаеш не больш дзесяці долараў. Хопіць на тыдзень харчавання хлебам, кефірам і паштэтам — калі яго здабудзеш.

Затое тыя, якія ледзьве цягнуцца ў хвасце, дзесяткі разоў пераздаваючы іспыты і залікі, адчуваюць сябе нядрэнна, бо маюць лепшую крыніцу прыбытку — гандаль арабскім хлебам, касметыкай ці лекамі, у найгоршым выпадку здаюць кроў. За пару хвілін цярпення атрымліваюць грошы, якія дазваляюць ім „прыстойна існаваць" прынамсі два тыдні. Ёсць аднак такія, якія выбіраюць іншы шлях — замест некалькіх хвілін цярпення, некалькі, ну, можа больш, хвілін прыемнасці. Жывуць за гэтае дабро, аддадзенае найчасцей багатаму іншаземцу, не горш як жонкі беларускіх прадпрымальнікаў.

Думаеш аб усім гэтым і прыходзіш да высновы, што цэніш сябе аднак крышку вышэй чым тыя, якія ўпіхваюць усім налева і направа арабскі хлеб і вырашаеш пашукаць сабе найнармальнейшую пад сонцам працу. За справай сваіх знаёмых знаходзіш занятак, які дапаможа табе захаваць чалавечую годнасць — некалькі гадзін англійскай мовы ў адной са шматлікіх школ сталіцы. На жаль табе і на радасць дэкану прыходзіцца прапускаць заняткі па фізкультуры. А гэта ж найважнейшы прадмет ва ўсіх вышэйшых установах — кожны студэнт ведае аб гэтым дасканала. За недацягненні ў наведванні фізкультуры можаш развітацца з інстытутам. Адзіны выхад — заплаціць за „пропускі" — такая цяпер „рыначная" мода. Аднак, заплаціўшы за час, які ты правёў на навучанні дзяцей англійскай мове, аддаеш інстытуту... палову сваёй зарплаты!

Можа аднак перакінуцца на касметыку?

Не, лепшы будзе арабскі хлеб!

**Альжбета Тамчук**

**Ад рэдакцыі:** Аўтарка, выпускніца белліцэя ў Бельску-Падляшскім, штудзіруе ў адной з менскіх ВНУ.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# „Журавінка" ў Пуньску


"Журавінка" і Мэгі.

Пуньск гэта невялікі гарадок на Сувальшчыне. Пражываюць тут літоўцы. У Пуньску паўсюдна гавораць на літоўскай мове і ў сем'ях, і на вуліцы, і ў школе. У Пуньску ёсць літоўская пачатковая школа, ліцэй і сельскагаспадарчая прафесіянальная школа. Усе прадметы выкладаюцца на літоўскай мове, а польская тут як прадмет — зусім наадварот, як у нашых школах на Беласточчыне. У днях 25 і 26 лістапада праходзіла тут вельмі цікавае свята — сустрэчы нацыянальных меншасцей, якія пражываюць у Сувальскім і Беластоцкім ваяводствах. Сярод меншасцей былі: літоўцы, украінцы, ромы (інакш цыганы), немцы, староверы і беларусы. Ад нас, беларусаў, прыехалі „Журавінка" і „Маланка" з Бельска-Падляшскага. Разам з „Журавінкай" была „Зорка". Паслухайце пра гэтую незабыўную паездку.

У першы дзень, суботу, нашы бельскія „Журавінкі" — вучаніцы V „е" з бельскай „тройкі", разам з дзецьмі ромскай і ўкраінскай нацыянальнасцей паехалі ў госці ў вясковую літоўскую школу ў Прыставонысь.


"Чэрэмош-2" з Венгажэва выконвае ўкраінскія танцы.

Чакалі там нас дзеці і настаўнікі. Спецыяльна для нас, гасцей, прыбралі сваю школу, наладзілі пачастунак і дыскатэку.

Але найперш усе пазнаёміліся.

— У нас спяваюць і танцуюць усе дзеці, — сказала гаспадыня школы, пані дырэктар Бірута Тумяліс. — Школа ў нас маленькая, толькі 30 вучняў. Усе прадметы, апрача польскай мовы, гісторыі Польшчы і грамадскага выхавання, выкладаюцца на літоўскай мове. Дзякуючы гэтаму, дзеці шануюць і паважаюць сваю родную мову, традыцыю. Гэта відаць не толькі па мове, але і па традыцыйных імёнах, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

— Пасля дзеці не маюць цяжкасцей, калі схочуць вучыцца ў далёкай Польшчы. Нават у Амерыцы некаторыя робяць кар'еру, — пацвярджалі многія літоўцы. — Такі станоўчы прыклад нацыянальнага выхавання быў добрым урокам для нашых дзяцей.

Цікава паказаліся дзеці ромаў з Сувалак. Спявалі яны і танцавалі свае цудоўныя песні.

— У нас таксама спяваюць усе дзеці, — сказала апякунка Кася Вашкевіч з Сувалак. — У ромаў ёсць таксама свая школа. Ходзіць там толькі 15 дзетак, бо ромскае асяроддзе ў Сувалках вельмі малое.

Цікава паказаліся ўкраінцы з Венгажэва. Спявалі, танцавалі і ігралі на бандурах.

— Нялёгка нам падтрымоўваць свае традыцыі. Дзеці ходзяць у польскія школы, сем'і ўкраінцаў рассеяны па ўсім ваяводстве, — гаварыў Уладзімір Дэнка, інстурктар дзіцячага гурту „Чэрэмош-2".

Усе меншасці, апрача нашай „Журавінкі", прэзентавалі таксама народныя строі. Нашая „Журавінка" затое захапіла ўсіх дзяцей сваёй спантаннасцю, прафесіяналізмам спеву і дзіцячым рэпертуарам. Адразу пасябравалі з нашымі ромскія дзеці, а малая Мэгі спецыяльна для „Журавінкі" стала на галаве. Пазней яшчэ „Журавінка" выступала ў Пуньску для дарослай публікі. Быў таксама час на сустрэчы з дзяцьмі іншых нацыянальнасцей, экскурсіі па Пуньску і наваколлі.

Думаю, што паездкі ў Пуньск і Прыставонысь астануцца ў памяці нашых „Журавінак" на ўсё жыццё.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



Літоўцы не толькі спявалі, танцавалі, але і ігралі на цымбалах.



# Каханыя паэты!

Апошнім часам нашая старонка ўзбагацілася свежым подыхам у галіне паэзіі. Нядаўна прывіталі мы знакамітыя вершы Ані Садоўскай з Нарвы, дзе апрача лірычнай задумы была цікавая тэхніка вершаскладання, якой дагэтуль карэспандэнты „Зоркі" не карысталіся.

Новыя вершы даслалі таксама Кася Анішчук і Каміля Лабузінская з Кленік, ліцэісткі Мажэна і Эва з Бельска. Цешаць яны „інтэлігентнасцю" і заахвочваюць да роздумаў усіх пачынаючых або надта паспешлівых кандыдатаў у літаратары.

І самае важнае — дасылайце свае новыя, нават шакіруючыя і эксперыментальныя творы! Гэта ўзбагаціць нашу старонку, якая сама сведчыць пра вас саміх!

З-ка

# Вучнёўскія рыфмаванкі

## Восень

Прыйшла да нас восень.
У нас каля школы
Кустоў восем.
І кожны з іх
Лісточкаў губіць лік.
Калі восень настала,
На дварэ холадна стала.
Птушкі паадляталі,
А мядзведзі пазасыналі.

**Кася Анішчук**

## Наш клас

Наш клас вялікі,
Як дзедавы чаравікі.
Хлапчукі ў нас рослыя,
Як у лесе сосны.
Дзяўчаты ў нас прыгожыя,
Як чырвоныя ружы.
Усе дружна мы жывём,
Як сабака з катом.

**Каміля Лабузінская**

# „Беларусы"

Я ў агульнаадукацыйны ліцэй хаджу
І мову беларускую вучу.
А нашу школу „беларусы"
называюць.
У Бельску-Падляшскім стаіць яна.
Побач знаходзіцца пошта,
Да школы дайсці проста.
Паміж дрэвамі, у парку
Школьную здалёк відаць брамку.
Навокал дрэвы стаяць
І ўсе вучні школу любяць.
У „беларусы" першы год хаджу,
І ўжо школу вельмі люблю,
Многа сяброў тут маю,
Амаль цэлы дзень тут прабываю,
На ўрокі паспешліва іду,
Настаўнікаў уважна слухаю,
Ведаў многа здабыць хачу,
І здаецца — добра раблю.
І што ж больш сказаць:
„Ніву" люблю чытаць,
Газету школа заказвае,
А кожны вучань ахвотна яе чытае.

**Эва Аўсяйчук**
з дапамогай **Мажэны Гапанюк,**
вучаніцы I „а" класа
Бельскага беларускага ліцэя

Талон "Зоркі" н-р 11
17.12.1995

# З іх вырастуць добрыя беларусы



*Яшчэ не зусім здаровы пасля хваробы, Паўлік Максімюк (першы злева) цудоўна прадэкламаваў верш "Коцікі".*

Два месяцы ўжо хадзілі дзеткі ў беларускае прадшколле ў Беластоку, а такой падзеі яшчэ там не было. 26 кастрычніка 1995 года новае прадшколле наведала ўрадавая дэлегацыя з Беларусі. А прыехала не з пустымі рукамі, а з багатымі падарункамі. Чаго там толькі не было! І цацкі, і гульні, і буквары, і вітамінкі! А найбольш уцешыліся дзеці, што падарылі ім тэлевізар ды відэамагнітафон з цэлым камплектам беларускіх казак, якія дзеці змогуць цяпер глядзець у сваім прадшколлі. Будуць яны таксама развучваць родныя песні і калыханкі — усё гэта таксама ёсць на прывезеных відэакасетах. Ну, але яшчэ ж і батлейка — дзеці навучацца гуляць у тэатрык, „ставіць" розныя п'есы. Ды і куфар — цудоўны, размаляваны — на цацкі. Каб цацкі абы-дзе не валяліся!

Яшчэ не зусім верачы сваім вачам, што столькі цудоўных рэчаў звалілася ім у прадшколле, малышы спачатку нясмела падыходзілі да падарункаў, аглядалі іх уважліва, а пасля ўсё больш адважна браліся за гульні.

Дзеткі не засталіся ў даўгу. Яны стараліся паказаць, што ўмелі, дэкламавалі вершы. Вось, напрыклад, Паўлік Максімюк, які ў апошні час хварэў і толькі што ўстаў з пасцелі, напэўна быў яшчэ не зусім здаровы, а як прадэкламаваў вершык пра коцікаў! Ды і Алеся Каліна, Эва Яканюк...

У беларускім прадшколлі, у якое ходзіць сёння амаль сорак дзетак, ёсць чатыры выхавацелькі — у малодшай групе гэта Альжбета Чыжэўская і Галіна Іванюк, а ў старэйшай — Эва Гняздоўская і Альжбета Бурачэўская. Дапамагаюць гэтым настаўніцам таксама Ірына Максімюк і Альжбета Андрасюк. Выхавацелькі гавораць з дзецьмі па-беларуску. Амаль усе малышы іх добра разумеюць, а хто навучыўся гаварыць па-свойму ў хаце — так сама гаворыць з выхавацелькамі. Іншыя пакуль што толькі слухаюць, але неўзабаве таксама змогуць размаўляць на беларускай мове.

Для шасцярых дзетак ужо праводзяцца заняткі ў нулявым класе. Яны ўжо вучацца чытаць і пісаць па-беларуску ды папольску.

Варта вам ведаць, што старэйшыя дзеткі з беларускага прадшколля ўжо чытаюць або прынамсі аглядаюць „Зорку", а малодшая група дапамагае „Зорцы" разыгрываць узнагароды. Напэўна вырастуць з іх добрыя, свядомыя беларусы.



**Інтэрв'ю з дачкою.** *Алеся Каліна адказвае на пытанні свайго таты, журналіста з "Часопіса".*

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# Масква і Вялікае княства Літоўскае

Характар узаемадачыненняў Вялікага княства Літоўскага і княства Маскоўскага вызначыла іх геаграфічнае месцазнаходжанне. Літва імкнулася стаць лідэрам ва ўсходняй Еўропе і была на хвалі збірання ўсіх усходнеславянскіх земляў. Падчас панавання Альгерда, сына Гедыміна, мяжа Вялікага княства перамясцілася на ўсход далёка за Смаленск. У XIV стагоддзі Маскоўскае княства, якое аставалася ў залежнасці ад татараў з Залатой Арды, пачало таксама працэс яднання рускіх земляў і вельмі хутка павялічвала сваю тэрыторыю коштам іншых краін. Завалоўваючы суседнія княствы Масква ў канцы XV стагоддзя падышла да беларускіх межаў. Тым часам маскоўскія князі, разбіўшы татараў, атрымалі поўную свабоду дзеяння ў адносінах да суседаў. Ужо падчас панавання Івана III (1462—1505) нарадзілася ідэя, каб маскоўскага князя называць „панам цэлай Русі". Абазначала гэта пажаданне, каб Беларусь і Украіна падпарадкаваліся Маскве. У 1492 г. пачалася доўгая беларуска-маскоўская вайна, якая з перапынкамі трывала да 1522 г. Вырашальным момантам гэтай вайны была перамога беларускага князя Канстанціна Астрожскага над маскоўскім войскам пад Оршай. Было гэта 8 верасня 1514 г. Беларусь абаранілася тады ад чужога панавання, а гадавіна аршанскай бітвы адзначаецца сёння патрыётамі на Бацькаўшчыне як Дзень беларускага войска.

# Казка пра лянівых старэчаў

Жылі дзед і баба. І былі яны такія лянівыя, што заўсёды спрачаліся, хто з іх больш робіць. Аднойчы баба наварыла кашы. Каша, праўда, была смачная і яе адразу з'елі. Але ўзнікла зноў сварка:

— Я кашу варыла, а ты гаршчок мый! — раскрычалася баба.

— Ты варыла, ты і мый! — адрэзаў дзед.

Доўга яшчэ так спрачаліся, аж дзед кажа бабе:

— Давай зараз ляжам спаць, а хто першы ўранні ўстане і загаворыць — таму і гаршчок мыць.

Так яны і зрабілі. Наступіла раніца. Прачнулася баба і пазірае на дзеда, што і той прачнуўся і таксама моўчкі ляжыць у сваёй пасцелі. Карова ў хляве мычыць, свінні вішчаць, куры кудахчуць — усе есці просяць. Бачаць суседзі, што ніхто не выходзіць і давай стукаць у дзверы дзеда і бабы. А там — цішыня. Падумалі суседзі, што памерлі старыя і па святара паслалі. Прывялі бацюшку, узламалі дзверы і бачаць, што ляжаць дзед і баба ды і не варушацца!

— Цяпер, — кажа святар, — трэба тут некага з вас, людзі, пакінуць, каб упраўляўся ў гаспадарцы.

Ніхто не хацеў астацца, бо ў старэчаў багацця не было і надзеі на спадчыну ніякай. Раптам адна цётка кажа:

— Вунь, бабіна шуба вісіць, я яе забяру.

Тут баба не вытрымала. Як не ўскочыць з ложка ды закрычыць:

— Мая шуба, не аддам!

Людзі як гэта пачулі, быццам зайцы з двара ўцякалі. Бо ж гэта дзівы такія — мерцвякі ажываюць!

А бабе прыйшлося той гаршчок памыць.

**А. А.**
*(паводле беларускай народнай казкі)*

## Увага, конкурс!

Паводле гэтай казкі намалюйце ілюстрацыі і дашліце іх у „Зорку".

## Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 11

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, якія падаем на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу двух тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 7:** роспач, ліра, парог, вока, прага, ярд, слава, пірог, сарока, чага.

Узнагароды — касеты беларускага дзіцячага гурту „Журавінка" са спеўнікамі — выйгралі:
1) **Аля Трусевіч** з Курашава,
2) **Эмілія Базылюк** з Гайнаўкі,
3) **Ася Сіткоўская** з Нарвы,
4) **Анэта Садоўская** з Беластока,
5) **Анэта Трахімюк** са Старога Беразова,
6) **Юліта Іванюк** з Бельска-Падляшскага.

Удзельнікі пластычнага конкурсу паводле казачкі „Пра дачку і бярозу" выйгралі таксама касеты „Журавінкі" са спеўнікам. А вось іх прозвішчы:
1) **Адрыян Лукша** з Семяноўкі,
2) **Малгося Янчук** з Курашава,
3) **Павел Каліноўскі** з Нараўкі.

OSOBA
GÓRA
ZAPACH
CHŁOP
RYJ
PAN
RYBA
GŁĄB

GŁĄB — KAZAH, ZAPACH — ПАХ.

✳ КРЫЖАВАНКА Н-Р 11 ✳ ✳ ✳

# Малюнкі школьнікаў




*Гэтую ілюстрацыю да казкі "Пра бярозу і дачку" намаляваў Адрыян Лукша са школы ў Семяноўцы.*

# Праца і задавальненне

23 лістапада бягучага года наведаў я Пачатковую школу ў Семяноўцы (Нараўчанская гміна). Стаяла зімнае марознае надвор'е. Зямля была пакрытая белым-белым снегам, а на дарогах блішчэла на сонцы галалёдзіца.

У школе ўсё ішло сваім, заведзеным з самага пачатку навучальнага года, парадкам. У класах адбываліся ўрокі. Цёпла і ўтульна было таксама на калідорах. Зрок прыцягвалі насценгазеты. Усюды чысціня, парадак.

Крыху пазней адбылася мая сустрэча з настаўнікамі і вучнямі. Размова была цікавай. Датычыла яна перш-наперш таго, што семяноўская школьная моладзь працалюбівая і любіць парадак не толькі ў класных залах і на школьным панадворку.

Вучні ахвотна расказалі мне пра прыбіранне ляснога масіву на беразе Семяноўскага вадасховішча, каля Старога Двара. Ездзілі туды вучні (каля 70 асоб) ды настаўніцы Валянціна Кардаш, Ірына Аліхвер, Мар'я Лукша і Лідзія Скепка самаходам з Надлясніцтва Броўск. Тое, што яны ўбачылі на беразе вадасховішча ды ў лесе, „парадак", які пакінулі тут пасля сваёй пабыўкі ўлетку курортнікі і рыбаловы, перасягнулі іх уяўленне. Поўныя дзве трактарныя прычэпы юныя прыбіральшчыкі запоўнілі кансервавымі банкамі і слоікамі, пластмасавымі і шклянымі бутэлькамі (сярод апошніх найбольш з-пад гарэлкі), ды шмат чым іншым. Лёгка мог сабе ўявіць кожны семяноўскі вучань тое, як адпачываюць на ўлонні прыроды дарослыя гараджане. Аб тым, што не шануюць яны прыроду, дзе як дзе але тут было відавочна. Паламаныя галіны старых дрэў а то і паламаныя дрэўцы... Калі палілі кастры (было іх многа), дык збіралі не толькі сухое галлё ці ссякалі сухастой або буралом. Па ўсяму відаць, што прыязджае на штучнае возера многа псеўдалюбіцеляў прыроды. Над лесам вісіць пагроза з боку псеўдатурыстаў. Школьная моладзь асуджае такія факты аднаназначна. Ёй відавочна, што зараз не хапае тут ахоўнікаў першабытнай прыроды.

Падчас пабыўкі ў лесе і ўжо пасля прыбірання адбылося падсумаванне рысуначнага конкурсу. Журы найвышэй ацаніла работы Кацярыны Варанецкай (вучаніцы VIII класа) ды шасцікласніка Лукаша Засіма. Рысункаў было шмат. Усе на тэму аховы прыроды. Такой тэме прысвечаны быў таксама конкурс ведаў.

Удзельнікам цікавай акцыі вельмі спадабаўся пачастунак кілбаскамі, булачкамі ды салодкімі напіткамі. Некаторыя з іх выступілі з прапановай, каб прыбіраць у навакольных лясах не адзін раз у год, але кожны месяц. І прапанова была цёпла ўспрынята.

Вучні дзякуюць войту Нараўчанскай гміны Мікалаю Павільчу, Надлясніцтву Броўск у Грушках ды прыватным спонсарам — уласнікам прыватных крамаў у Нараўцы — за пачастунак ды рэчавыя ўзнагароды.

**Янка Падарожнік**

## Беларускі палітычны рух у 1989—1995 гадах у Польшчы

З такой тэмай выступіў 25 лістапада г.г. у Ратушы Старога Горада ў Гданьску галоўны рэдактар „Нівы" Яўген Мірановіч. Гэтым разам па невядомых прычынах ніводная гданьская газета не змясціла інфармацыі пра гэтую сустрэчу. Таму ў Ратушы сабраліся амаль выключна гданьскія беларусы. Падчас трохгадзіннай сустрэчы закраналіся праблемы беларускай меншасці ў Польшчы. Людзі пыталіся пра Беларускі музей у Гайнаўцы, працу ў „Ніве", перспектывы беларускага руху ў найбліжэйшай будучыні. Аказалася, што над Балтыйскім морам, сярод нашых суродзічаў, ёсць немалое зацікаўленне Беласточчым краем. Размовы закончыліся познім вечарам у Беларускім клубе ў Гданьску, які знаходзіцца пры вул. Альжбетанскай 10-11.

**Л. Г.**

# „Беларускі выпуск"

Беларускае слова ўвайшло ў праграму польскага тэлебачання. Кожную першую суботу месяца а 18.10 па другой праграме мы можам глядзець 20-хвілінную перадачу Варшаўскага тэлебачання — „Беларускі выпуск".

2 снежня г.г. у „Беларускім выпуску" большасць увагі адводзілася справам Гайнаўкі — рэпарцёры наведалі Сабор св. Тройцы, Беларускі ліцэй, магістрат, будову Беларускага музея, а нават і вядомы сваёй адметнасцю па-за Гайнаўкай бар „У Валодзі". Закранутыя ў праграме справы — вядомыя, скажам, уважліваму чытачу „Нівы". Трэба тут аднак прызнаць некаторую свежасць погляду на праблематыку Гайнаўкі, якая часткова выкліканая і фактам, што глядзім на гэтую праблематыку менавіта вокам камеры. Не пагаджаюся тут з думкай Я. Сычэўскага, быццам рэдактары „Беларускага выпуску" паказваюць усё акрамя спраў Беларускага таварыства. Беларускі музей у Гайнаўцы з'яўляецца якраз справай Беларускага таварыства ў Польшчы ды ўсёй нашай меншасці. Заўзятае памставанне Галоўнага праўлення БГКТ на журналістаў тут не на месцы.

У сувязі з уваходам беларускіх перадач у праграму польскага тэлебачання хочацца (мабыць, гэта лішняя перасцярога) выказаць пажаданне, каб не пайшлі яны па схеме беларускіх радыёперадач, якія часта калоцяцца ў зачараваным трыкутніку Беласток—Гайнаўка—Бельск.

Тое, што адрознівае „Беларускі выпуск" ад іншых праграм у тэлебачанні — гэта мова. Дыктар, рэпарцёры і іх субяседнікі гавораць па-беларуску. Паралельна на экране паяўляецца пераклад для польскага гледача. І гэта ў парадку, але не ўсё тут яшчэ ідэальна. Слухаючы 2 снежня беларускія каментарыі спікера ды чытаючы польскі пераклад, склалася ў мяне ўражанне, якое неўзабаве абярнулася ў цвёрдую ўпэўненасць — польскі „пераклад" з'явіўся раней за беларускі тэкст. Беларускі тэкст наспех дапісваўся да свайго перакладу, замест быць гладка фармуляваным на беларускай мове.

Недахоп у „Беларускім выпуску" для мяне — газетнага журналіста — пакуль адзін: замала ўвагі прысвячаецца ў ім культуры мовы, яе літаратурнай беззаганнасці. Падборка тэмы, здымак, рэжысура, мантаж — усё гэта не менш важнае, але калі перадача мае быць беларускай у поўным значэнні гэтага слова, галоўны націск ставіць трэба менавіта на мову. Практычная парада можа быць такая: адна асоба павінна працаваць выключна над моўным аспектам „Беларускага выпуску".

**Аляксандр Максімюк**

# Цёзкава татуіроўка

Больш як месяц таму прарочыў я вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Польшчы. З пэўным непакоем сачыў я за лёсам свайго прароцтва. Між першым і другім турам зрабілася мне нават няёмка, бо прагнозы апытальных агенцтваў, мякка кажучы, не супадалі з маімі. Зграшыў, падумаў я, бо палез не толькі не надта ў сваё, зямныя вярхі, але яшчэ і вышэй заглянуць наважыўся. А празмерная цікавасць гэта, як вядома, першая ступенька ў напрамку пекла. Спазналі гэта на сабе даўным-даўно: найпершая Ева, выгнаная з Эдэма на зямскія долі-нядолі, жонка Лота, абернутая ў стоўп солі ці будаўнікі Вавілонскай вежы, якім захацелася ведаць тое, што і мне — спазнаць нябесныя сакрэты. Скончылася гэта, як вядома, моўным плюралізмам. Была адна, *общепонятная* мова, а ўзнікла іх поўна-паўнюсенька, у тым ліку і наша — тутэйшая. Гэтакае *общепонятное* важнічанне перад Нябёсамі канчаецца таксамюсенька, калі ўважліва прыглянуцца, і ў наш час. Наконт Вавілонскай вежы даследчыкі старажытнасці мяркуюць, што ставілі яе не для таго, каб заглядаць у манатэістычныя Нябёсы, але ў гонар галоўнага вавілонскага бога Мардука, да таго ж з адной даволі практычнай мэтай — каб, у выпадку нейкага другога Патопу, магчы на яе ўзабрацца, каб уратавацца перад воднай стыхіяй. Святыня Мардука — зікурат Этэменанкі — была разбурана персідскім царом Ксерксам, згневаным бунтам вавілонцаў у 482 годзе да н.э. Пераможца персаў, Аляксандр Македонскі, хацеў адбудаваць магутную святыню, аднак ягоныя будаўнікі лічылі гэта немагчымым і дарадзілі яму разабраць развaліны і на іх месцы паставіць новы храм. Ачысціць пляц удалося, але будове новай вежы не было суджана здзейсніцца. Вялікі заваёўнік заўчасна памёр, а разам з ім і яго задума.

Калі я ўсвядоміў свой задзірысты блуд, наступіў дзень другога тура выбараў і мае меркаванні з цягам мінут ставаліся штораз больш змястоўнымі ў адносінах да тэлевізійнага апытальніка; я папросту справіўся лепей ад тысяч ягоных рэспандэнтаў. А ўжо пасля таго другога тура мой прагноз набіраў штораз большай моцы. Аказалася, што тыя, якія апынуліся ў меншасці, пачалі масава пратэставаць і заяўляць, што іх увялі ў зман. Калі б не гэтая іх замаруджанасць (бо пра той зман было ўжо даўно паўсюдна вядома, толькі не тым, што заглядзеліся адно ў сваю светач праўды, а тым, якія проста час ад часу глянулі ў тэлевізар), дык усе яны напэўна, адмаўляючыся галасаваць на *умника*, з двух не надта адукаваных людзей выбралі б, прыблізна такой самай працэнтнай перавагай як і на Беларусі, майго цёзку. А, абмяжоўваючыся толькі да „тутэйшых", цалкам імаверна, што атрымаў бы ён 99,98 прац. усіх галасоў. Гэта не фантазія — гэта ўжо бывала. „Што было, тое і будзе, і што рабілася, тое і будзе рабіцца, і няма нічога новага пад сонцам" — напісаў калісь мудры цар Саламон.

Пра самыя выбары больш нечага пісаць, бо цяжка адносіцца сур'ёзна да кур'ёзнага. Здавалася мне раней, што кур'ёзам будзе толькі першы тур, другі тур аказаўся аднак куды больш дастойным гэтага наймення. Ну, але гэта так пасля кожных родаў, у тым ліку і дэмакратыі, што спачатку новаўлённеці робіць у пялёнкі. Так сталася ў Польшчы. За ўсходняй мяжой нават і да гэтага не даходзіць: там нават дэмакратыі, скарыстаўшы толькі раскошны момант дэмакратычнага памазання, „бацькі народа" зробяць аборт і справе канец.

Вяртаючыся да маёй прапановы конкурснага выбару прэзідэнта краіны, багацейшы назіраннямі другога тура выбараў, прапанаваў бы я яшчэ, каб пра выбар галавы дзяржавы вырашала не толькі ўсмешка ці рэверанс, але і багацце татуіроўкі кандыдатаў.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*БАРЫС РУСКО*

## Зямля

Зямлёй становяцца планеты
на пляжы зорак,
калі пад ступнёю
Дабрадзея лопаюць бутоны.
У зямлі блакіце
адценняў столькі,
што кветка знойдзе
сабе колер.

## Тайна

Смерць абяззболена,
адчыняе дзверы ў спальню,
дзе няма сну,
толькі ява без укусаў.
А ў люстры
крыўляюцца
зморшчаныя твары
нованароджаных.

## Заняволенне

Твой шэпт прысутны
на кожным ражку
прасціradла.
Прыгожа малюеш карціны,
прышпільваючы іх
у касу дзён.
І дрыжыць струна пад смыкам
у блакіце світання,
быццам і не было
зачараванай ночы.
Зоркі шукаюць нашых вачэй,
а заняволенае неба
свеціць у нас зоркамі.

## Распутаны

На беразе губ
яшчэ прыстань,
згарнуць можна ў ноздры
пах вёск
і ўбачыць, як у пальцах
чырванее ўзгорак сонца.
А потым сядло Афрадыты
і алюр.

## Споведзь

Кожнае зерне слова
сейбіт ашчупвае вокам,
пакуль узыдзе,
і думкі чытае
да апошняга знака.
А сляды мае
такія выразныя,
што кожны следапыт
апіша іх беспамылкова.
Тады навошта
ў настаўленае вуха
пясок сыпаць.

## Гоман

З пустых слоў,
бы з каранёў мёртвых,
дзьме парахном у вочы.
Джэнтльмены
уваскрашаюць надзею.
Час быстры, як птушка.
Спяшайцеся,
каб да зрэнак патомных
гоман пушчы паспеў дабегчы.

## Жыццё

Бяжыш,
а даль пустая,
а ліха глыбай,
а ў думках хаос,
а ўнутры жар.
Свечка канае,
у далонях попел,
гадзіннік — стоп.

## Цені Платона

Пейзаж уцякае
ў даль раздзьмутую.
Фатаграфіі хвілі
з сабою не ўзяў.
Намацваю пляму
з-за гарызонту,
на могілках зорак
птушкі пяро,
з-пад фалдаў
згубленага вымярэння
знаёмы сык —
гэта мой цень.
Праўда адна.
Ды колькі тут люстраў
расстаўленых тварамі
да сябе.
А за плячыма
ўсё гарыць свечка,
а па сцяне
нехта ідзе.

## Хто я?

Маё сяло, ды й усё вакол яго
Закінута аж на край свету.
Так доўга бачу я яго,
Што хочацца сказаць пра гэта.
Вакол пяскі, балоты і лясы,
І рэчка, што на картах не бывае,
Абапал луг поўны кветак і расы —
Цудоўнасць, асабліва калі ў маю.
Да гарадоў далёка, дзе ні глянь
Колам жалезным парэзаны дарогі.
І зранку толькі ў сонцы ўстань
І рукі працягні да Бога.
У такой вёсцы быў мой дзень народзін.
Адтуль у школу меў пяць кіламетраў.
Тут да вайны мне сёмы год праходзіў
У сцюжу, у дождж, у буру з ветрам.
Тады я устыдаўся „простай" мовы,
Ды праўда — што сяло, яна была ўсё рознай,
А чыстай, беларускай, не ведалі ні слова,
Але ж дагаварыцца паміж намі было можна.
Можа, чакаць нам трэба і вайны?!
Трыццаць дзевяты, вось мы — беларусы?
Датуль аб нас: А чорт іх знае, хто яны?
А мы не павялі на гэта нават вусам.
Да сёння дзіўна мне, што гэтак мог
не ведаць,
Што не „тутэйшыя" мы, а беларусы.
Не чуў аб гэтым ні ад бацькі, ні ад дзеда.
Хіба ж яны таксама былі трусы?
Хто мы былі? А хто аб гэтым думаў,
Мы ж мужыч'ё, што прадавалася на штукі,
Адсунутыя ад светавога глуму,
Ад гарадоў, ад шчасця, ад навукі!..
Ні нацыя былі мы, ні народ ніякі,
Тутэйшыя, тубыльцы, аўтахтоны.
Пад акупацыяй улад усякіх
Нас пырыжалі розныя „законы".
Ёсць Беларусь! А ты — усё на ласцы.
Хоць на сваім — а быццам не ў сябе.
Жывеш, бы ў зачараванай казцы.
Спакойна хочаш жыць, не ў барацьбе.

**„Улас"**

# Радзіма васьміканцовай зоркі і яе карані

Які самы пашыраны дэкаратыўны матыў у беларускім арнаменце? Хто хоць крыху знаёмы з народнай культурай беларусаў, адразу ж скажа: васьміканцовая зорка. Вышытую чырвонымі ніткамі васьміканцовую зорку мы сустрэнем на ручніках, зробленых у цэнтральнай Беларусі, Панямонні, на Палессі і ў іншых кутках краіны.

Але пакуль што ніхто яшчэ не паспрабаваў дакладна высветліць, адкуль і калі да беларусаў прыйшоў гэты сімвал.

На Украіне васьміканцовыя зоркі сустракаюцца часцей чым у Расіі, але кампазіцыйна яны не дамінуюць і таксама маюць невялікія памеры. У Польшчы можна сустрэць іх практычна толькі на Беласточчыне — месцы кампактнага рассялення беларусаў. На астатняй жа тэрыторыі краіны васьміканцовыя зоркі ў дэкоры зусім не ўжываюцца. Але калі пад увагу возьмем народы неславянскага, а балцкага паходжання, бачым вялікую розніцу ў выкарыстанні вядомай васьміканцовай зоркі. Яна, можна сказаць, шырока ўжываецца ў арнаментыцы літоўскіх тканых пакрывалаў, у дэкоры ручнікоў. У латышоў васьміканцовая зорка — улюбёны дэкаратыўны элемент у аздабленні традыцыйных вязаных рукавічак. Арганічна ўплятаецца васьміканцовая зорка і ў арнамент славутых латышскіх паясоў з мястэчка Ліелвард. Але калі мы прадоўжым наша вандраванне на поўнач, то таксама знойдзем „нашу кветку" і ў эстонцаў, і ў фінаў, і ў карэлаў. Так-так, гэтыя народы належаць да зусім іншай групы — да фінаўграў. Аднак прадоўжым нашу вандроўку яшчэ больш на поўнач, перабяромся на Скандынаўскі паўвостраў. І што ж бачым? На сцяне дома шведскага селяніна вісіць тканы дыван са знаёмымі нам васьміканцовымі зоркамі.

На пытанне, адкуль ідуць карані арнаментнага элемента ў выглядзе васьміканцовай зоркі, мы б так і не знайшлі адказу, калі б не адна акалічнасць. Справа ў тым, што на тэрыторыі Расіі, у Паволжы, жывуць народы — удмурты, мардва, марыйцы, якія ў сваім арнаменце таксама ўжываюць вельмі знаёмыя нам васьміканцовыя зоркі. Такія ж зоркі не рэдкасць і ў дэкоры народа, які жыве на берагах Дуная — у венграў. Нам давядзецца прызнаць, што па прычыне аддаленасці рассялення балцкія народы ніяк не маглі паўплываць на арнаментыку жыхароў басейнаў дзвюх названых вялікіх рэк. Аднак і ўдмурты, і мардва, і марыйцы, і венгры належаць да адной жа групы народаў — да фіна-угорскай.



*Стылізаваная васьміканцовая зорка на кафлі XVI ст. Стары замак у Гродне. Раскопкі Алега Трусава.*

У глыбокай старажытнасці ўсе фінаугорскія плямёны жылі ў адным месцы — менавіта ў раёне Волгі і Урала, дзе зараз расселены іх нашчадкі: удмурты, мардва, марыйцы ды іншыя. Тут па ўсім відаць і сфарміраваўся некалі арнамент з вялікіх васьміканцовых зорак і захаваўся ў гэтых мясцінах да сённяшняга часу. Фіна-угорскія ж продкі сучасных фінаў (суомі), эстонцаў, карэлаў, некаторых іншых народаў прыкладна за тысячу гадоў да н.э. адарваліся ад паволжскіх фіна-угорскіх плямёнаў, пасунуліся на заходнюю поўнач і пачалі самастойнае існаванне ў Прыбалтыцы. На сваю бацькаўшчыну яны прынеслі і сваю арнаментыку.

Славяне ў Цэнтральнай Еўропе з'явіліся пазней — у сярэдзіне I тысячагоддзя н.э. Паступова пасоўваючыся на поўнач са сваіх першапачатковых земляў, якія размяшчаліся паўднёвей ад Прыпяці, славянскія плямёны перамяшаліся з балтамі і фіна-ўграмі, што жылі на гэтай тэрыторыі. Вось тады, напэўна, славяне — „навасельцы" (а значыць і этнічныя беларусы) і запазычылі ў іх арнамент з васьміканцовай зоркай.

Цяпер, калі вызначаны карані паходжання арнаментальнага элемента ў выглядзе васьміканцовай зоркі, паспрабуем дазнацца пра сэнс гэтага сімвала. Вядома, што на беларускіх драўляных разных прасніцах, у аздабленні якіх у якасці салярных знакаў (сімвалаў сонца) найчасцей выкарыстоўваліся шасціпраменевыя разеткі, часам гэтую ролю выконвалі яшчэ васьміпраменевыя разеткі. Вялікія самаробныя зоркі з пруткоў і паперы, якія нярэдка мелі восем канцоў, з'яўляліся ў беларусаў атрыбутам калядная абраднасці і ўвасаблялі дзённае нябеснае свяцілішча, бо Каляды ў часы паганства прысвячаліся зімоваму сонцазвароту. Зоркі — „сонейкі" сустракаюцца на велікодных яйках — маляванках — як сімвал вясны і абуджэння прыроды.

Але ці заўсёды васьміканцовая зорка ў беларусаў азначала сонца? Успомнім, што гэты сімвал прыйшоў да іх ад фіна-угорскіх народаў. А які ж сэнс ён меў у апошніх? У карэлаў, напрыклад, арнаментальны матыў у выглядзе васьміканцовай зоркі называўся кудамакір'я, што значыць *месячны малюнак*. Буйны ўзор з васьміканцовай зоркі, які вышывалі ўдмурткі на сваіх нагрудніках, называўся ў іх тэле — *месячны*. А вось вытрымка з карэлафінскага эпасу „Калевала":

*Хороша рубашка свата:*
*Чуть выглядывает ворот,*
*Словно дочь луны соткала...*

Месяц — вось што ўвасаблялі ў выглядзе васьміканцовых арнаментальных зорак фіна-угорскія народы. Верагодна, і ў продкаў сучасных беларусаў, якія запазычылі ў фіна-угорскіх плямёнаў гэты элемент, зоркі-васьміпрогі спачатку паказвалі на начное свяціла і толькі пазней сталі звязвацца з сонцам, як асноўным сакральным сімвалам старажытных славян...

**Івона Марціновіч**




*Mniejszości narodowe i religijne w Europie Środkowo-Wschodniej w świetle statystyk XIX i XX wieku. Materiały z międzynarodowej konferencji "Mniejszości narodowe i religijne w pokomunistycznej Europie Środkowo-Wschodniej". Lublin, 20-22 października 1992 r. Red. naukowa Zygmunt Sułowski i Jan Skarbek. Lublin, ss. 178, tab., wykr., mapy.*

KŁOCZOWSKI Jerzy: Wstęp, s. 5.

SUŁOWSKI Zygmunt: Zróżnicowanie etniczno-religijne ludności Europy Środkowo-Wschodniej i jego geneza, s. 7-18.

HOŁUSZKO Marek: Mniejszości narodowe i etniczne w Polsce, s. 19-45.

HRYCIUK Grzegorz: Zmiany liczebności ludności polskiej w Małopolsce Wschodniej w latach 1939-1945. Zarys problematyki, s. 46-61.

MIRONOWICZ Antoni: Księgi metrykalne w badaniach demograficznych wiernych Kościoła prawosławnego, s. 62-67.

MARCINIAK Tomasz: Ormianie polscy — wczoraj i dziś, s. 68-74.

SREBRAKOWSKI Aleksander: Liczba Polaków w ZSRR w świetle oficjalnych statystyk radzieckich, s. 75-97.

EBERHARDT Piotr: Skład narodowościowy ziemi litewskiej w XX wieku, s. 98-118.

SREBRAKOWSKI Aleksander: Statystyczny portret Polaków z Litwy (na podstawie oficjalnych danych statystycznych), s. 119-137.

DZWONKOWSKI Roman: Problem liczebności Polaków i katolików obrządku łacińskiego na Białorusi i Ukrainie, s. 138-151.

EBERHARDT Piotr: Skład narodowościowy ziemi ukraińskiej w XX wieku, s. 152-166.

KALAVSKÝ Michal: Determinanty procesów etnokulturowych na terytoriach zamieszkałych przez mniejszości narodowe, s. 167-175.

SEBÖK LÁSZLÓ: Mniejszości narodowe na Węgrzech, s. 176-178.

**Р. С.**

# У цяні молата

У другой палове верасня 1939 г. Заходняя Беларусь апынулася ў межах Савецкага Саюза і неўзабаве была далучана да Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Царква і духавенства ў савецкай краіне толькі з прычыны свайго існавання з'яўляліся галоўнымі ворагамі пануючай камуністычнай партыі. Пасля жахлівага перыяду разбурання святыняў у ІІ Рэчы Паспалітай у 1938-1939 гадах, савецкае панаванне яшчэ больш пагоршыла сітуацыю Праваслаўнай царквы. Ужо восенню 1939 г. загінулі ў нявысветленых акалічнасцях некалькі праваслаўных святароў і людзей звязаных з царкоўным жыццём. У вёсцы Шыловічы, што каля Жыровіч, быў замучаны настаяцель тамашняга прыхода протаіерэй Андрэй Куц. Разам са святаром былі замардаваныя яго жонка і дзеці. Ніхто не ведае хто і за што застрэліў настаяцеляў парафіі ў Зэльве, Ляшове, Лашах, Пружанах, Жыжне. Пасля дэпартацыі паліцыянтаў, вышэйшыхураднікаў, леснікоў і памешчыкаў прыйшла чарга на праваслаўных святароў, якім ставілася ў закід супрацоўніцтва з польскімі ўладамі і аслабленне рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Звыш ста святароў разам з сем'ямі было вывезеных у Сібір, дзе толькі нешматлікім пашанцавала перажыць кашмар сталінскіх канцлагераў. Найгоршы быў лёс тых, якіх арыштавалі ў чэрвені 1941 г. Нямецкая агрэсія пазбавіла саветаў магчымасці транспарту ўсіх зняволеных на Усход, таму работнікі НКУС найчасцей мардавалі вязняў дзе толькі папала — у турмах, на дарогах, у вагонах, якія не маглі ад'ехаць у напрамку Урала. Зацікаўленне савецкіх спецслужбаў накіравалася перш за ўсё на пошукі тых праваслаўных дзеячаў, якія да вайны былі звязаныя з беларускім нацыянальным рухам. Невыпадкова адным з першых арыштаваных, а пасля найлепей пільнаваным вязнем быў сенатар Вячаслаў Багдановіч. Невядома нават калі і дзе яго замардавалі.

Некаторым праваслаўным святарам назначаліся спецыяльныя нормы для выпрацоўкі пры пабудове дарог, мастоў, лясных работах. Такая форма прыніжэння людзей называлася саветамі „выхаваннем цераз працу". Апрача таго святарам быў вызначаны спецыяльны падатак, які ў некалькі разоў перавышаў іх фінансавыя магчымасці. У мястэчку Мір ад настаяцеля тамашняй парафіі патрабавалася такая сума, якая перавышала цэлую яго маёмасць. З дапамогай свайму святару прыйшлі вернікі, якія пачалі збор грошай, каб абараніць яго ад дэпартацыі. Але НКУС арыштоўвала збіральшчыкаў як ворагаў савецкай улады. Логіка гэтай палітыкі была даволі простая: накладаліся такія падаткі, каб духоўныя не былі ў змозе іх заплаціць. Калі нехта не аддаваў грошай „належных" дзяржаве, тады прымушалі яго, каб свае даўгі адпрацоўваў у канцлагерах. Нічога таксама не вырашала, калі некаму з праследаваных святароў удалося сабраць назначаную суму. Тады трэба было яшчэ адказаць, адкуль духоўная асоба мае столькі грошай. Ужо восенню 1939 г. саветы адабралі царкоўную зямлю, якая неўзабаве ў большасці трапіла ў калгасы. Некаторыя прыхадскія дамы сталі сядзібай раённай адміністрацыі. Апрача нахабнай антырэлігійнай прапаганды, якая праводзілася ў школах, падчас вясковых сходаў, у прэсе і ў кіно, вельмі часта актывісты камсамола і партыі арганізавалі ў цэрквах, падчас багаслужбы, усялякія хуліганскія дэманстрацыі. Спявалі свае песні, крычалі, пхаліся, кідалі матам, абражалі святара і вернікаў. Найчасцей рабілі гэта актывісты, якія прыехалі з Усходу, а іх прымітывізм шакіраваў нават мясцовых камуністаў.

Змены наступілі таксама ў арганізацыі царкоўнай адміністрацыі. Пакуль у верасні 1939 г. савецкая армія дайшла да Гародні, тамашнюю епархію пакінуў архіепіскап Сава, вядомы як арганізатар і патрон „руху праваслаўных палякаў" і адначасова шэф праваслаўнага ардынарыята ў польскім войску. З Вільні выехаў таксама тамашні вікарны епіскап Мацей, стваральнік руху праваслаўных палякаў на Віленшчыне. У месца паланафілаў савецкія ўлады назначылі епіскапамі расейцаў, а епархіі, якія раней знаходзіліся ва ўладанні варшаўскіх мітрапалітаў, былі падпарадкаваныя маскоўскаму патрыярху Сяргею і далучаныя да расейскай Царквы. У чэрвені 1940 г. новы архіепіскап гродзенскі Панцеляймон атрымаў з рук патрыярха Сяргея званне экзарха Заходняй Беларусі. Адначасова Гродзенская епархія, якой кіраваў экзарх, была пабольшаная пару дзесяткамі парафіяў былой Віленскай епархіі і атрымала назву „Гродзенска-Віленскай". Налічвала яна звыш трохсот прыходаў. Астатнія парафіі Заходняй Беларусі ўвайшлі ў склад ствараный ў сакавіку 1941 г. Берасцейскай епархіі. Гэтую апошнюю ўзначаліў епіскап Венядзікт, раней архімандрыт Жыровіцкага манастыра. Змены гэтыя ў натуральны спосаб аслаблялі сувязі паміж епіскапствамі і прыходамі. У 1940 г. амаль кожная трэцяя парафія была пазбаўленая святара. Разам з духоўнымі ехалі ў Сібір псаломшчыкі, харысты. Але сітуацыя ў Заходняй Беларусі была нашмат лепшая, чым у бээсэсэраўскай. На Усходзе працэс знішчэння Царквы быў ужо амаль закончаны. Бальшавікі не ашчаджалі ні людзей, ні старадаўніх мурояў. Гэта не былі помнікі іх цывілізацыі, а толькі бастыёны варожай ім ідэалогіі.

**Яўген Мірановіч**

## Навука дэмакратыі

У днях ад 20 да 25 лістапада г.г. у Ольштыне прабывала першая група самаўрадаўцаў з Гродна дзеля вывучэння вопыту іх польскіх калегаў, а ў снежні выбіраецца да нас другая, якая будзе вывучаць гаспадарчыя справы. Іхны прыезд у Ольштын сфінансаваў беларускі Фонд Сапегі, а пабыўку тут — польскі Фонд развіцця мясцовай дэмакратыі і Фонд Стэфана Баторыя. З Гродна на вучобу ў Асяродку мясцовай дэмакратыі прыехала 12 чалавек. Госці пазнавалі арганізацыю польскіх самаўрадаў, правы і абавязкі радных, стратэгію развіцця гмінаў, камунальную гаспадарку; выслухалі таксама даклад пра фінансы гміны Познань. Сярод гасцей былі м. інш. Таццяна Маліноўская — выкладчык Кафедры гісторыі Гродзенскага універсітэта, Андрэй Майсяёнак — наменснік дырэктара Інстытута хіміі, Мікалай Аксаміт — дэпутат Вярхоўнага Савета з Ваўкавыска, Мікола Кавальчук — старшыня Гарсавета ў Ваўкавыску і Вітаўт Руднік — журналіст гродзенскай „Пагоні". У свабодны ад заняткаў дзень я запрасіў сп. Рудніка да сябе дадому, дзе гутарылі мы пад музыку гурту „Ас" пра нашы беларускія справы. Праз пасрэдніцтва „Нівы" пасылаю сп. Вітаўту Рудніку і ўсяму калектыву „Пагоні" найлепшыя сяточныя і навагоднія пажаданні.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Вырадак

Алене М. не жылося добра ў ейнай сям'і. Усе пра гэта ведалі — і суседзі, і паліцыя, і сямейны суд. Чаму? Вядома, як гэта бывае. Чымсьці ў сужонстве „не дапасаваліся", як кажуць людзі. Выйшла Алена замуж добра, ледзь абсохла „матуральнае" пасведчанне, за багатага і нестарога яшчэ мужчыну, з кватэрай у пяць пакояў, з аўтамашынай. Мужык яе на выгляд добры чалавек — ветлівы для суседзяў, кожнаму першы *Дзень добры* дасць, заўсёды ахвотны да дапамогі — нават грашыма амаль чужых людзей ратаваў. І нябрыдкі — на вуліцы яны ўтраёх, з чатырохгадовым бялявым хлопчыкам вельмі прыгожа глядзеліся, — толькі прыклад з іх можна было браць. Адам М., працуючы шмат і амаль без выхадных і канікул, не шкадаваў грошай і клопату, каб маладая жонка з дзіцём жылі жобра, высылаў іх на курорты, нават за мяжу.

Алена М., падгадаваўшы дзіцё з дапамогай няньні да трох гадоў, адправіла яго ў садок. Вазіла малога на сваёй апошняй машыне, якую атрымала ад мужа на імяніны — макавым „Чынквечэнта", пасля ехала купіць сабе „абноўку". Вярталася ў розны час, і малы, бывала, доўга заседжваўся ў прадшколлі, калі ўжо ўсе бацькі забралі сваіх дзяцей, чакаў маму. Да трох гадоў меў шмат нянек, усе былі цёці файныя, падабаліся Фэлюсю амаль усе, толькі не ўсе маглі дагадзіць мамулі — раз былі запрыгожыя, раз „заразумныя", раз занадта іх хваліў тата... Алена не працавала прафесіянальна, бо якія ж грошы атрымлівала б як сакратарка нават у добрай фірме і пры добрым дырэктары; больш магла мець за тое, што сядзіць дома. На тое ўзяў Адам М. такую прыгожую дзяўчыну, каб была аздобай і цешыла вока пана дому і тых, каму захацеў яе паказаць.

Вядома, кожны чалавек заняты сваімі справамі. Хіба што толькі хворыя збыткам цікавасці плеткары нахабна заглядаюць бліжнім пад покрыўку гаршкоў. Бачылі людзі маладую прыстойную сям'ю, шмат хто ёй зайздросціў, і раптам пачалі прыходзіць павесткі з суда да суседзяў як да сведкаў.

Дома ў М. бывалі па некалькі разоў толькі Вікторыя С., пенсіянерка, якая адразу пасля пасялення ў „блёку" наведала ўсіх суседзяў і прадставілася ім, і Януш К., „залатая ручка", якога разы тры прыгожая суседка прасіла дапамагчы пры хатніх аварыях. Пані Вікторыя не магла нахваліцца: такая вялізная кватэра, але, на яе думку, зусім небагата абстаўлена. Пакоі ўсе пабелены, мэбля або чорная або светлая, скураныя канапы і фатэлі, процьма кніг на паліцах. Цётка Вікторыя лічыць, што багацце відна найбольш па выстаўках крышталю на сценках-рэгалах, а тут нават тыя сценкі як не сценкі, а чорт ведама што. Дыван толькі адзін, і то нейкі як канапляны, ці што, усюды на падлозе якаясь цэгла, а не гладзенькія пліткі, а на сценах багамазы ў простых рамах. Апаратаў толькі многа — то нейкія экраны, то стаўбы, з якіх слухаюць музыку, а як загудзяць яны, то як арганы ў касцёле чуеш... Рэха! Вось прастор, калі некаторыя ціснуцца ў сваіх клетках! І як чыста — тры разы ў тыдзень прыходзіць *пакаёўка*, прыбірае. У малога свой пакой, і, папраўдзе, Фэлюся зусім не чуваць, таропіцца ў камп'ютэр, ледзь яго адгоніш, вочы сабе марнуе... А Януша К. захапляла ўсё ў гэтай кватэры, а найбольш адмысловыя краны ў блакітнай лазніцы з паўкруглай ваннай і агромністай кухні-сталовай... Вось жывуць людзі!

Што маглі сказаць сведкі ў судзе? Не бачылі ж, што тварылася ў хаце сужонства М. Не бачылі, але чулі! Як тут не ўчуць, як пані Алена кліча ратунку, вішчыць немым голасам, чуваць страшэнны ляскат і грукат, валіцца нешта на падлогу, аж сцены трасуцца!? Не ўсе чулі, бо крыкі былі паміж дзесятай і поўднем або паўгадзінкі да трэцяй. Дзякуй Богу — дзіцё не бачыць, як бацька-вырадак мардуе матку! Выклікалі паліцыю і суседзі, і спадарыня М., але паліцыянты або не хацелі ўмешвацца ў „сямейную справу", або прыязджалі тады, калі Адама М. не было ўжо дома. Ніхто з суседзяў ніколі не прыбег на ратунак.

Разводная справа, хоць цягнулася доўга, набліжалася да фінішу. Алена М. хацела мець дом з мэбляй, дзіцё, машыну, сваю калекцыю каштоўных камянёў і аліменты, якія дазволілі б выхоўваць дзіцё на не горшым чым цяпер узроўні. Адам М. закідаў жонцы, што нахабна лжэ пра ягоныя паводзіны, але, вядома, доказы былі пераканаўчыя — пасведчанні суседзяў, пабітая мэбля і посуд, раны на целе жонкі, пасведчаныя лекарам. Спадар Адам наняў новую кватэру і забраў частку сваіх касцюмаў і кніжак. Але скандалы паўтараліся амаль штодзённа, цяпер і ўвечары, і ноччу.

Пачыналіся ўжо летнія канікулы, Фэлюсь паехаў у лагер. Пані Алена рашыла справу завяршыць яшчэ перад летнім роспускам суда.

Лямант, крык, амаль выццё, водгукі біцця мэблі і талерак паўтараліся цяпер нават тры-чатыры разы ў суткі. Паліцыя не рэагавала.

Але аднойчы не вытрымаў сусед, Рыгор Н. Збег ён па лесвіцы ў адных кальсонах, з жахам думаючы, што той дэгенерат вось-вось заб'е няшчасную кабету. Заламатаў у дзверы. Нічога не дапамагло. Рыгор Н. разбегся і з усяе сілы грымнуўся сваім магутным целам у дзверы. На шчасце, былі яны зачынены на толькі адзін з чытырох замкоў. Дзверы бабахнулі на „тэракоту" ў калідоры. Без духу пабег у салон, адкуль даляталі хвалі неверагоднай бойкі — трашчалі дошкі, бразгала шкло і талеркі, енчыла жанчына...

На канапе сядзела Алена М., піла каву, пляла на прутках доўгі шалік. А калонкі-гукаўзмацняльнікі аж падскоквалі. Запіс быў выдатны, сыграны з некалькіх гукавых сцежак. А паганага мужа не было і духу.

**Міра Лукша**

# „Дарога да ўзаемнасці" ў Белавежы

8—9 ліпеня г.г. у Белавежскім доме культуры праводзілася міжнародная канферэнцыя „Дарога да ўзаемнасці", прысвечаная польска-беларускім гістарычным, асветным, грамадскім, рэлігійным і культурным сувязям. Ініцыятарам мерапрыемства быў тры гады таму Аляксандр Баршчэўскі — загадчык Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Першая такога тыпу канферэнцыя адбылася ў Беластоку, другая — у Гродне, а белавежская „Дарога да ўзаемнасці" была трэцім яе выпускам.

Арганізатарамі канферэнцыі „Дарога да ўзаемнасці" з польскага боку былі: Галоўнае праўленне БГКТ, Польскае беларусазнаўчае таварыства, Міністэрства культуры і мастацтва, Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Таварыства „Польшча—Беларусь". З беларускага боку ў характары арганізатара выступілі: Саюз палякаў Беларусі, Кафедра польскай філалогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, Польскае навуковае таварыства ў Беларусі і Беларускі фонд культуры.

З пажаданнямі для ўдзельнікаў канферэнцыі, а таксама інфармацыяй пра праблемы сваіх грамадскасцяў, выступілі прадстаўнікі самаўрадаў Беласточчыны: Анна Байко — войт гміны Белавежа, Ядвіга Рудзінская-Патэюк — бурмістр Гайнаўкі ды Андрэй Сцепанюк — бурмістр Бельска-Падляшскага.

Вядучымі нарадаў канферэнцыі „Дарога да ўзаемнасці" былі Рышард Радзік з Любліна і Тадэуш Гавін з Гродна. На белавежскай канферэнцыі былі зачытаны наступныя даклады: „Ідэя незалежнасці Беларусі ў гістарычным аспекце" (Анатоль Грыцкевіч, Менск), „Сучасныя праблемы нацыянальнага жыцця беларусаў" (Сяргей Габрусевіч, Гродна), „Ля крыніцы фарміравання сучаснай беларускай нацыянальнай свядомасці" (Васіль Белаказовіч, Ольштын), „Польска-беларуская камісія па пытаннях культурнай спадчыны" (Зоя Ярашэвіч-Пераслаўцава, Ольштын), „Палітыка дзяржавы і ўрада Беларусі адносна польскай меншасці ў Беларусі" (Тадэуш Малевіч, Гродна), „Культура беларускай нацыянальнай меншасці ў аспекце палітыкі польскай дзяржавы" (Ян Сычэўскі, Беласток), „Сітуацыя беларускай мовы паводле слухачоў беларускай праграмы Польскага радыё" (Ніна Баршчэўская, Варшава), „Ідэя рэгіянальнай адукацыі" (Ян Насовіч, Беласток), „Некаторыя праблемы адраджэння польскай мовы і культуры" (Міхал Дабрынін, Брэст), „Спрэчка за нацыянальную прыналежнасць Адама Міцкевіча" (Тадэуш Левашкевіч, Познань), „Прычыны слабасці беларускага нацыянальна-творчага працэсу ў апошніх двух стагоддзях" (Рышард Радзік, Люблін), „Некаторыя пытанні адлюстравання акаўскай тэматыкі ў беларускай прэсе" (Зыгмунт Барадын, Менск), „Культ сонца ў беларускіх нацыянальных абрадах" (Міхал Саевіч, Люблін), „Марыян Фальскі — перакладчык польскай літаратуры на беларускую мову" (Надзея Панасюк, Варшава), „Імёны падляшскай шляхты ў спісках літоўскага войска ў 1528, 1565 і 1567 гадах" (Васіль Ціханюк, Зялёная Гура), „Беларуская духоўнасць у творах Уладзіслава Сыракомлі" (Аляксандр Баршчэўскі, Варшава), „Магія ў беларускіх вясельных абрадах" (Анна Возняк, Люблін), „Гродзенскія казкі — адзін з відаў творчасці беларусаў" (Тамара Цімашук, Варшава), „Белавежа ў паэзіі Алеся Барскага" (Бэата Капій, Люблін).

У дыскусіі канферэнцыі „Дарога да ўзаемнасці" голас узяў Канстанцін Майсеня, які выказаў думку, каб дакладчыкі перадалі па адным экземпляры дакладаў у бібліятэку Беларускага музея ў Гайнаўцы. Удзельнікі прапанову такую падтрымалі, а таксама выказалі думку, што матэрыялы канферэнцыі павінны быць выдадзены ў кніжнай форме.

**Міхал Голуб**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

### Частка XXXV

Частым матывам, які паўтараўся ў выказваннях бацькі, быў матыў, які можна было б звесці да таго, што пасля вайны значна палепшылася якаснасць матэрыяльнага жыцця беларусаў, але пры гэтым не толькі не ўзрос, але па сутнасці аслаб тонус беларускай духоўнасці:

„От я табе гаварыў, што гэта Людова Польшча то толькі дала беларусам як ніадна гасударство дагэтуль. Людзі пачалі зусім па-другому жыці. Можна сказаці, што беларусы памаленьку становяцца панамі. Ну, і здавалаcё б, што трэбо было б толькі цешыцца з усяго гэтаго, але калі разабрацца, то ні ведомо, чы тут трэбо цешыцца, чы плакаці. Ты пагляді, што робіцца. Я табе гаварыў, што за немца пад акупацыяю ў нас жыло больш чым дзевяноста чалавек, а знаеш, колькі жыве цяпер? А я знаю, бо палічыў. Жыве каля сарака, а будзе намного менш. З каждым рокам будзе менш. То ты мне скажы, што ж гэто за родзіна без людзей. Німа людзей, то німа і родзіны. Калі так гляджу на Бандары, то бачу, што ў хуткім будушчым пачнут паяўляцца ў нас пустыя хаты. І наша будзе пустая. То ж усе дзеці выехалі, адна Люба засталася. Памру я, памрэ старая, памрэ Люба і хата стане пустая. Ты думаў аб гэтом? Напэўно думаў, але ніхто тут ні можэ нічого парадзіці. І так у ўсіх вёсках абстаіт дзело. Гэта наша родзіна то праз лет шэсцьдзесят станецца пустыняю. Тое, што панкі будут прыезджаці з Беластоку чы Варшавы ў нідзелю да бацькоўскіх хатаў, то гэто нашае родзіны ні ўратуе. Зрэштаю, мне то здаецца, што палякі то памаленьку будут сюды пхаці сваіх людзей і ніхто таго і ні заметіт як гэто наша родзіна станецца польскаю родзіною. Зрэштаю, ні трэбо нават палякаў бо і нашы панкі, не гаворачы ўжэ аб іх дзецях, усе пагалоўно пшэкают па-польску. То як мы з імі будзем гаварыці, каб яны тут удзержывалі беларуску родзіну? Яны табе ў очы наплюють.

І от том я сабе часто то думаю, што можэ было б лепш, каб мы жылі ў такой самой бядзе, як жылі перад вайною. Каб паліцыі баяліся, каб суда баяліся, каб секвістратара баяліся, каб шарваркоў баяліся. Каб нас падаткамі душылі, каб у школы ні бралі. Адным словам, каб нас угнэталі сілаю, то можэ тады ў нас крыху гэтае гордасці беларускае захавалася б, бо цяпер то яна малніеносно з нашаго жыця ўцікае. Ну, але з другого боку, то было б падурному жычыці сабе кепского жыцця. Ну але гэто добрэ жыце то забівае на нашых ачах усё тое, што было нашэ, беларуске. Так што сам бачыш, што часом то гэта роўнасць і дабрабыт то невядомо чы больш дае карысці, чы шкоды.

Ну і ўсё вышло зусім ніпанятно: як жыце беларусаў палепшыласё, а калі разабраца то пагоршыласё. Палепшыласё, бо людзі пачалі лепш есці і лепш працаваці, а горш бо так як бы нашэ жыце ўсё больш стаецца ні беларуске, але польске.

Ну, але бачыш, свет змяняецца і то ні толькі таму, што жонд памагае беларусам. Я табе падам адзін такі прымер. У нас тут людзі ад вякоў граблі сено граблямі і нават на воз падавалі граблямі і ўвогуле на лонку ні бралі вілаў. Капіцы клалі так, што клалі дзесяцьдванаццаць перагрэбін і ўсё. Аж тут пасля вайны Васіль Пунёў, каторы мае лонку каля нашае, вярнуўшыся з работаў у немца на Прусах пачаў класці капіцы ні грэблямі, а віламі. Ты знаеш я з старою (маёй маці — А.Б.) налажылі грабелькамі дванаццаць капіц, а ён адзін наваліў віламі дванцаць капіц. Ты знаеш, я глядзеў і думаў, што тыя яго капіцы то вецер раз-два разваліт, а як будзе ісці дождж то яны прамокнут да дна. А знаеш, што сталасё? Якраз ноччу быў сільны вецер і ішоў дождж. І от на другі дзень аказаласё, што з нашых дванаццаці капіц вецер разваліў восем, а з яго дванцаці разваліў толькі дзве. А тые, што вецер не разваліў, то былі намного больш сухіе, чым мае. Ну то ад гэтаго часу то ўжэ і мы пачалі класці капіцы віламі і ты знаеш, што віламі то палавіну работы ў параўнанні з грабелькамі. Ну, от сам бачыш, здавалаcё б простэ дзело, а самы відно то мы яшчэ сто лет грабелькамі клалі б капіцы і грабелькамі падавалі б іх на воз. То відно, варто ездзіць па свеці і прыглядаца як людзі што робят, бо можэ дзесь робят лепш, чым у нас. Але могут рабіці і горш. От ты вазьмі хоць бы нашы аглоблі і мазурскі дышэль. То ж гэты дышэль то ні чорта ні варты. Як кіне воз у калдобу, то гэты дышэль можа каня перакінуці, а аглоблі ні перакінут.

Ну але гэто ўсё то ўжэ ні глаўнэ дзело, але толькі дробязі. Так чы інакш, наша родзіна пасля вайны сталася зусім другая, чым была калісь. І што там гаварыці, раз людзям жывецца лепш чым жылося, то ўжэ ніхто ні схочэ жыці так, як жыў перад вайною.

Ты знаеш, я вельмі часто з благадарнасцю думаю пра таго жыда, каторы после вайны сказаў мне, каб мы ні пераязджалі ў Савецкі Саюз. Той, хто паехаў то моцно прамахнуўся, бо там папаў у калхозну бяду, а мы тут то ўсё ж такі жывем хоць можэ і ні па-панску то ўсё ж такі па-чалавечы".

**Алесь Барскі**

# КРЫЖАВАНКА

**Гарызантальна:** 3. прытok Амура, якога крыніцы ў Манголіі, 8. чараўнік, 9. кантынент, 10. від кіслароду, які паўстае падчас буры, 11. распараджэнне, 13. адсутнасць шуму, 15. маладая жанчына, 16. праз яе пасрэдніцтва папа кіруе Касцёлам, 20. суб'ектыўнае адчуванне, 22. народная паэтка, 23. птушка з чорным апярэннем, 27. альпініст, 29. малітоўны верш для спеву, 30. маскоўскі патрыярх, царкоўны рэфарматар (1605—1681), 31. оперная песня, 32. збудаванне для вырошчвання ранняй гароднiны, 33. еўрапейская рака, 34. выказвае закончаную думку.

**Вертыкальна:** 1. від папугая, 2. жаніх, 4. часціна мовы, якая абазначае прадмет, 5. жывуць у паўночна-заходняй Сібіры, 6. фруктовае дрэва, 7. абразлівыя жарты, 12. участак, 14. робіць інтрыгі, 16. міжземнаморская выспа, 17. доўгае адзенне праваслаўнага духавенства, 18. свойская жывёліна з доўгімі вушамі, 19. туша, прыгодная для ежы, 21. каша з кукурузнай мукі, 24. вугал паміж паўночным і заданым напрамкам, 25. горад у Польшчы, 26. вяроўка з пятлёй, 27. задняя частка тулава, 28. гранічная рака паміж Турцыяй і Арменіяй.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 44 н-ра:**

**Гарызантальна:** шчотка, прызма, Мадрас, Баку, фара, фехтаванне, баль, рата, Чыкага, мінута, Рангун.

**Вертыкальна:** Шчэрба, Кама, прас, манера, дратаванка, куфель, фанера, Батумі, тайфун, Чыта, гара.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# „Праява нацыяналізму”

Гэтая гісторыя здарылася пасля „ваеннага стану”. Дзве жанчыны з С. паехалі ў горад за пакупкамі. Цяжка было тады на нешта добрае нарвацца, трэба было добра папахадзіць, папастаяць у чэргах. Памятаеце — мяса, цукар, масла былі тады на „карткі”, нейкую тканіну ці вопратку таксама цяжка было знайсці, нават не каб вельмі добрую, але абы-якую. Сталі Ганна і Надзя ў чаргу, перабіралі здранцвелымі нагамі, цярпліва чакалі, перамаўліся па-свойму. Гэта знервавала якуюсь гараджанку, азвалася строга:

— Длячэго пане гадаё в тым ензыку?! Як хцэце гадаць по руску, то едзьце до Брэжнева! Пане со в Польсцэ, і маё мувіць по польску!

— Як мяне маці навучыла, так і буду гаварыці! — спакойна адказала Надзя.

— Почэкай до мая, дурна кацапко, то се шыбко научыш! — заверашчала дама.

Жанчыны нічога ёй не адказалі, далей размаўлялі адна з адной па-свойму.

Прывезлі тавар, пачаўся продаж. Надзі і Ганне таксама хапіла. Задаволеныя выйшлі з крамы. Пані, якая страшыла іх „маем”, рашыла пачакаць, пакуль яны выйдуць, і мець апошняе слова ў дыскусіі.

— Ганна, патрымай мае торбы, — Надзя падала сяброўцы свой каштоўны багаж, — дам я ёй „май”! На той „май”! А на!

Гараджанка замоўкла, пачала адбівацца, але Надзя была моцная, здаровая, і даваліся даме збірацца ўцякаць.

Хтосьці пазваў міліцыю. Жанчын забралі ў камендатуру. Выслухаўшы, у чым справа, камендант рашыў паню Кавальскую падаць у „калегіюм” за правакацыю і рассейванне слухаў, што ў маі нацыяналісты будуць ліквідаваць нацыянальныя меншасці.

Аўрора

# Смерць і пекла

Аднойчы занёс я пенсію сп. Дзмітрыю Дзіду з Тафілаўцаў, а ён гаворыць мне: „То што, Коля, зноў прынёс мне смерць і пекла”. І расказаў ён мне адну гісторыю пра грошы, мо гэта і легенда была, але варта яе ведаць, бо яна наша, тутэйшая.

Летам ішлі дарогаю трох мужчын. Стаміліся яны і захацелі прысесці і адпачыць. Тут паявіўся перад імі малады, прыгожы хлапец і кажа: „Вы, прахожыя, як бачу, бедныя. Вось там недалёка, на ростанях, бачыў я смерць і пекла. Добра было б, калі б і вы гэта пабачылі”. Хлапец скора знік як нейкая здань. Вандроўцы зацікавіліся гэтай прапановай і падаліся на ўказанае месца. Калі туды прыйшлі, здзівіліся але і моцна абрадаваліся: убачылі на дарозе многа-многа грошай, а ў іх ліку і гурбу залатых. Адразу пазбіралі тыя грошы і аднаго з іх высылаюць у карчму, каб купіў у жыда тры бутэлькі гарэлкі з закускай, каб выпіць тут за спатканае шчасце. Узяў ён крыху грошай і падаўся ў карчму. Па дарозе, якая не была кароткая, прыдумаў ён так: у гарэлку падсыплю атруты, тыя двох памруць і ўсе грошы будуць мае. А тыя двох думалі так сама: дагаварыліся забіць калегу і грошы захапіць сабе. Пасланец, купіўшы гарэлку, адпіў крыху з кожнай бутэлькі, панасыпаў атруты і пазакаркоўваў. Калі прынёс тую гарэлку сябрам, тыя яго забілі і давай частавацца і запіваць удачу. Скора пачуліся дрэнна і паўмiралі. І споўніліся словы хлапца. Грошы — гэта смерць і пекла.

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, быццам мы з братавай недзе на прыёме. Не памятаю, як выглядала зала, дзе гэта было, ані сталоў не бачу. Толькі вось тое, што елі мы нейкае варанае ці печанае мяса, мясныя вырабы і бадай курацыну. Потым ужо я ў сваёй хаце на тапчане сплю. І, прачнуўшыся, бачу, што на маёй падушцы, каля галавы, ляжаць два вялікія шэрыя, канцылярскія канверты. Заглядаю я ў іх і што бачу: у адным — варанае мяса, наверсе каўбаска, у другім — косці схабовыя, здаецца, таксама вараныя. Усё гэта мая братавая ўзяла з гэтага прыёму, каб занесці дадому. Я падумала: там наелася, ды яшчэ дахаты набрала. Але мо і добра зрабіла.

Потым, зусім не звязанае з гэтым сном, сніцца, што бачу (як бы нехта мне яго паказвае) распасцерты дзіцячы свіцер, блакітны ў белыя палоскі.

Што абазначаюць, Астроне, гэтыя сны?

**Марыся**

Марыся! Ты смела можаш спадзявацца нейкай радаснай весткі, аб якой папярэджваюць цябе тыя канверты, што ляжалі на падушцы каля тваёй галавы. Магчыма, тыя весткі будуць датычыць нейкай маёмасці, бо канверты былі напоўнены вараным мясам, а мяса, калі сніцца варанае, так і знай, абазначае дабрабыт. Зрэшты, на прыёме ж вы з братавай таксама елі варанае ці печанае мяса. Ці яго бачыш у сне, ці ясі — усё адно будзе добра.

Нават і той світарок, што прысніўся табе ў канцы, абазначае, што чакае цябе нешта добрае. Блакіт — колер надзеі.

**Астрон**

# ПАРНАС

Чытальніцкая літстудыя на негарантаваных паях

## Парадак зімы

Зіма снежная
Наступіла.
Яна не вечная,
План свой адкрыла.
Калі рабіць,
То моцна!
Будзем мы жыць
Зіме не злосна.
Слаба будзем рабіць,
Толькі абівацца —
Як будзем жыць?
Будзе яна злавацца.
Пачуем мы боль
Аж да касцей,
Будзе калоць
Усё мацней.
Зіма не любіць лянівых.
Ды якіх?
Жывых — спартыўных
Людзей сваіх.
Пад кажух яна не ўлезе,
А пад панскі халат.
І колькі ўлезе —
Такі яе лад.
Зіма можа паспяшыцца,
Нават у лістападзе.
Не будзем з ёю біцца,
А быць гатовым, браце.
Перад ёю мы дрыжым,
Хаця апранутыя.
З печкай мы дружым
І цёпла абутыя.
А як нашы сябры,
Што на двары пастаянна?
Гэта птушкі і звяры —
Не ляціць ім з неба манна.
Бог клапоціцца пра іх;
Кожнае з іх рана ўстае
І як тварэнням сваім
Такім Бог усё дае.
Зіму любяць дзеці
І ім не холадна.
Амаль у цэлым свеце
Яна ім родная.
Зіма, відаць, патрэбная —
Не будзем яе судзіць.
Яна багатая, не бедная —
Будзем з ёю дружыць.

**Мікалай Панфілюк**

## Успамін Тафілаўцаў

Жыву я ў доме апекі. Нядрэнна тут маю,
Але вёску Тафілаўцы ўсё прыпамінаю.
Пасла я ў свайго бацькі авечкі і гускі.
Прыязджаў да нас дзядзька Ваня-рускі.
Ой, як яго добры людзі з музыкай віталі!
Як ён цярпеў нявінна, усе добра зналі.
Мне ў памяці астаўся і сумны вобраз вёскі:
Паляглі ад граду жытнія палоскі,
Вада разнесла нашы сенажаці,
Вымакла і бульба, няма чаго капаці...
Стаяў сумны бацька і плакала маці.

**Мар'я Пень**




**Ніва**

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917--132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Прыпеўкі

Там за рэчкай, за Дунайкай
Ходзіць Ваня з балалайкай.
Ходзіць ды песні спявае
І да Мані падміргае.

Маня, сэрца мае,
Улюбіўся я ў цябе.
Ходзь, пасядзем пад вярбою,
Пагаворым між сабою.

Пад вярбой яны сядлзелі,
Шчыра весяліліся,
Ваня Маню цалаваў
Ды і паваліліся.

* * *

Заблудоўскія мяшчане
Прадалі хамут з кляшчамі
І сядзельца, і узду
За чырвоную звязду.

У мястэчку Заблудове
Гандаль пашыраецца,
Там на кожным павароце
Крамы развіваюцца.

Бургамістр наш з Заблудова —
Хлопец гаспадарны —
За чырвоны СКР
Прыпынак паставіў.

Як у Заблудоўскай гміне
Вёскі называюцца?
Ты зайдзі ў першу хату
І там запытаешся.

Эх, вы райцы з Заблудова,
Бургамістра трэба гнаць,
На пачатку кожнай вёскі
Указальнікі ўстаўляць.

**Мікалай Лук'янюк**

# СЕНТЭНЦЫІ

З добрай рэкламай
і пясок пойдзе як вада.
*
У таго горб,
у каго душа гарбатая.
*
Бойся таго, хто круціць языком,
а не хвастом.
*
Дурноты сітам не перасееш.
*
У таго фасон, у каго прамыя плечы.
*
Вонкавае святло асвятляе,
унутранае — асвячае.
*
Калі ты ківі-ківі,
дык і крылы крачкі табе не памогуць.

**Барыс Руско**






Мал. А. Каршакевіча

# Баба ці мужык?

Стары Дзям'ян вяртаўся з горада вячэрнім цягніком. Людзей было няшмат, кожны сядзеў паасобку, быццам баяўся іншых пасажыраў.

Дзям'ян сеў таксама адзін. Неўзабаве міма яго лаўкі прайшлі дзве жанчыны, селі насупраць. Пасля прайшла асоба, якой пол цяжка акрэсліць. Дзям'ян вопытным вокам агледзеў істоту і рашыў, што гэта нейкі дзівак — мужчына апрануты ў жаночае адзенне. Чалавек быў абуты ў модныя жаночыя боты з халяўкай, на мажныя сцёгны нацягнуў міні-спаднічку, хаця было яму недзе каля пяцідзесяці гадоў, валасы меў зачэсаны ў высокі, вялікі гугель, а кофта мела абшырнае дэкальтэ. Асоба села насупраць жанчын, каля Дзям'яна. Азвалася ні то жаночым, ні то мужчынскім голасам, павяла размову пра секс. Жанчыны прабавалі гаварыць пра нешта сур'ёзнае — пра цэны, палітыку, але той цудак зводзіў усе тэмы да ложка. Дзям'ян перасеўся на лаўку з другога боку вагона, — не хацеў ні слухаць гэтай непрыстойнай поскудзі, ні глядзець на дзіва, але ўсё, хоч не хоч, зіркаў то на ногі, то на грудзі... У пэўны момант заўважыў, што з-пад спадніўкі вылезла мужчынская аздоба. Жанчыны завішчалі, схапілі свае сумкі і пабеглі ў другі вагон. Іншыя пасажыры злякаліся і ўцяклі таксама. Дзям'ян пакалдыбаў за ўсімі, даганяў яго сіплы смех дзіўнага пасажыра.

Людзі неяк згуртаваліся — небяспека яднае.

— А хто ж гэта такі там быў? — дапытваліся пасажыры, якія не бачылі „пярэваратня".

— Я адразу ведаў, што гэта пераапрануты мужык, — сцвердзіў Дзям'ян.

— А адкуль вы ведалі?

— Не такое ў сваім жыцці бачыў. Крыху аслеп, але, ведаеце, бабу ад мужыка то яшчэ адрозню. Лапы ў яго валасатыя, грудзі плоскія, ногі нязграбныя, цьфу — як такія ў такой спадніцы паказваць! Толькі гэта ці жартаўнік, ці ненармальны, не скажу, то і лепш ад такога ўцячы. Цяпер тут весялей, так ці не, калі ўсе пасядалі разам?

**Аўрора**

# Смех у санаторыі
## або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

— Якая розніца паміж жанатым і кавалерам?
— Калі кавалер улюбіцца — жэніцца, а калі жанаты ўлюбіцца — разводзіцца.

* * *

Дачка да маці:
— Не выйду за Вішнеўскага! Што з таго, што ён багаты, калі атэіст.
— Не турбуйся, доня, ужо па трох тыднях жыцця з табою паверыць у пекла.

* * *

Коля рашыў ажаніцца і падаў у газету матрыманіяльную аб'яву: „Малады, стройны, сімпатычны, без дрэнных прывычак вырашыў ажаніцца і шукае прыгожай і мудрай дзяўчыны, якая гэтую задуму выб'е яму з галавы".

* * *

Сустракаюцца дзве сяброўкі:
— Чула, што твой муж у шпіталі: нешта здаецца, зламаў...
— Так: прысягу сужонскай вернасці.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:
— Муж, калі ездзіў у камандзіроўку, начаваў у Варшаве; гаварыў, што ў сябра. Каб гэта праверыць, выслала да ўсіх ягоных сяброў, а мае іх пецярых, пытанні, ці ў іх начаваў.
— І што?
— Прыйшло пяць адказаў, што начаваў.

* * *

Нявестка скардзіцца цесцю:
— Тата, дапамажы! Маю клопаты са сваім мужам.
— Якія клопаты?
— Ён не ўмее піць гарэлкі і іграць у карты.
— Гэта ж хіба добра...
— Не зусім: не ўмее піць гарэлкі, а п'е, не ўмее іграць у карты, а іграе.

* * *

Бацька намаўляе сына, каб жаніўся з багатай дзяўчынай.
— Тата, яна зусім сляпая!
— Дзякуючы гэтаму, будзеш мог хаваць ад яе грошы.
— Яна зусім глухая.
— Не будзе падслухоўваць тваіх размоў па тэлефону.
— Яна кульгае.
— Не будзе цябе шукаць у рэстаране.
— Яна гарбатая!
— Не блазнуй, сынок. Адну загану то яна можа мець.

* * *

Кандыдат на жаніцьбу распытвае свата:
— Ці гэтая дзяўчына багатая?
— Вельмі багатая.
— Колькі ўносіць у пасаг?
— Толькі мільёнаў, колькі мае гадоў.
— А колькі мае гадоў?
— Дваццаць.
— Яна для мяне яшчэ замаладая.

* * *

Збіты аўтамабілем Коля з абурэннем звяртаецца да вадзіцелькі:
— Ці вы сляпая?
— Ну, што вы! Я ж у вас папала.




Дарагое Сэрцайка! Усё жыццё маці мяне пераконвала, каб не разглядалася я за хлопцамі іншай веры, а шукала свайго, праваслаўнага. Толькі з ім, лічыла яна, я змагу быць шчаслівай. Усе іншыя ніколі не даруюць мне, калі захачу застацца пры сваёй веры. Я заўсёды слухала маму.

А навокал — усё больш хлопцы-католікі. Ну, дык што мне было рабіць? Адной на дыскатэку хадзіць? І такім чынам выйшла неяк, што хаця была я студэнткай, дык большасцю сядзела ў вольныя хвіліны ў хаце. І мушу табе прызнацца: адбілася я ад людзей. Было ў мяне пару сябровак, але з часам і яны мне перасталі быць патрэбныя.

Мая сястра была менш паслухмяная. Яна не глядзела на тое, што гаварыла мама, а рабіла сваё. Усюды было яе поўна — хадзіла і гуляла з усімі сваімі сябрамі, якія былі навокал. Яна была малодшая за мяне і таксама была студэнткай. І вось паявіўся ў яе хлопец, які быў толькі яе хлопцам. Часамі вярталася яна позна, а няраз заставалася ў яго нанач. Ён жыў на кватэры, а гаспадыня была надта добрая. Нарэшце зацяжарыла, але паведаміла нам, што выходзіць замуж, калі была ўжо ў палове цяжарнасці. Нават мама яшчэ нічога не заўважыла. Што ж было рабіць, вядома, бацькі згадзіліся, бо ж гэта такі сорам...

Выйшла яна замуж і пачалі яны жыць у нас. Хлопец аказаўся цудоўным чалавекам, хаця і бралі шлюб у касцёле. Неўзабаве нарадзілася дзіцятка. Сталася яно цэнтрам увагі нашай сям'і. Усе быццам ажылі — і тата, і мама, і я. Мне нават у галаву не прыходзіла, каб некуды схадзіць у вольныя хвіліны, ці пабавіцца. Мне так было прыемна з гэтым хлопчыкам.

Жылі яны вельмі добра, і нават мама ніколі не наракала, што сястра выйшла за католіка. Калі закончылі вучобу, выехалі ў іншы горад. Там нарадзілася ў іх яшчэ двое дзетак. Усё, што трэба, прыдбалі, дом пабудавалі, жывуць вельмі згодна. Я назірала за імі і прыйшла да вываду, што яны кахаліся ўсё жыццё, як рэдка хто.

Доўга непакоілася мама, як выдаць мяне замуж. Ужо яна і сама не цешылася, што навучыла мяне жыць так катэгарычна. Ну, дальбог, Сэрцайка, не сустрэла я ніводнага праваслаўнага хлопца, якога б магла пакахаць, хаця, ты ж ведаеш, праваслаўных у нас нямала. Нарэшце мама вырашыла, што пазнаёміць мяне з сынам яе прыяцелькі, які таксама меў падобныя праблемы, як і я.

Усё было па правілах: нас сасваталі, мы крыху пахадзілі, а зараз жа назначылі і дату шлюбу. Бацькі зрабілі нам вялікае вяселле. Назапрашалі мноства сваякоў і знаёмых. Не мелі прычын дзеля таго, каб саромецца. Не выдавалі дачку замуж за іншаверца, ды і, як кажуць, не мусілі спяшацца з гэтым.

Калі я выходзіла замуж, то сказала маме, што не надта цягне мяне да гэтага хлопца. Нічога, пакахаеш, адказала мне маці. Паглядзіш, што значыць быць з мужам. Але мама глыбока памылялася. Я сапраўды меркавала, што будзе для мяне рай на зямлі, калі аддамся мужчыне. Высветлілася аднак, што не па той прычыне мой муж так позна ажаніўся, што шукаў праваслаўную дзяўчыну, а таму, што быў імпатэнтам.

Не магу сказаць на яго кепскага слова як на чалавека. Быў у адносінах да мяне вельмі сардэчны, клапатлівы. Стараўся памагаць ва ўсім, дзе мог. Але што з таго, калі прыходзіла ноч і пачыналіся ўсе праблемы. Як ён стараўся, каб мне было добра, цяжка апісаць. Раз у тыдзень нешта ў яго выходзіла. Але часцей за ўсё я ўставала раніцай з нейкім пачуццём нездавальнення, раздражнення.

Пасля пачалі радзіцца дзеці, і неяк справы сексу перасталі цікавіць мяне. Калі нешта было, дык добра, калі не — яшчэ лепш. Але адносіны між намі значна пахаладзелі. Я стала нейкая сумная і побач з мужам адчуваю сябе адзінокай. Навет дзеці не даюць мне той радасці, што калісьці. Скажы, Сэрцайка, ці мама мела рацыю?

**Ганна**

Ганна! Тэарэтычна мама мела рацыю, але на практыцы многае выглядае інакш. Я думаю, што ў адносінах між мужчынам і жанчынай павінна браць верх пачуццё, а не прывязанасць да веры. Разумныя людзі заўсёды неяк дагаворацца. Іншая справа, што ў нашай сітуацыі гэтыя „дагаворы" выглядаюць надта аднабакова.

**Сэрцайка**